

# “САКАВІК”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**
**у падтрымку беларускай культуры**
**і беларускасьці**

# №3

# Верасень 2013

*Заснавальнік і рэдактар Пётра Мурзёнак*

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*





## Зьмест часопіса «САКАВІК» №3, верасень 2013



*Наступны нумар часопіса выйдзе ў снежьні 2013 года*





**ПЁТРА МУРЗЁНАК: БЕЛАРУСЬ. 2013. СПАТКАНЬНЕ З РАДЗІМАЙ**

**Уступ**

Гэтым летам, праз 15 гадоў жыцьця ў Канадзе, першы раз наведаў Беларусь. Мая вандроўка доўжылася тры тыдні ў другой палове жніўня – пачатку верасьня з наведваньнем гарадоў Мінска, Полацка, Наваполацка, Брэста, Паставаў, Пружанаў, Маларыты, Камянца. Вядома ж шмат пабачыў і падчас паездак на аўтамабілях і цягніках па тэрыторыі некалькіх раёнаў Мінскай, Віцебскай і Брэсцкай абласьцей. Ніжэй зьмешчаны ўражаньні ад спатканьня з Радзімай пасьля доўгага растаньня і аналіз сітуацыі і тых зьмен, што адбыліся ў Беларусі за гэты час.







**Эмоцыі**

Напачатку коратка пра найбольш яркія моманты знаходжаньня ў Беларусі. Ужо ў першую раніцу, калі мяне прабудзілі сваімі «размовамі» мае любімыя птушкі, сарокі (якіх на жаль няма ў ваколіцах Аттавы), я зразумеў, што маё падарожжа пройдзе пад дэвізам «Адпачываю Радзімай». Ранішняе «сутыкненьне» з сарокамі, як і іншыя шчаслівыя моманты сустрэчы са знаёмым і родным у далейшым, было вельмі кранальным і прыемным. Гэта былі і ластаўкі пад страхой хаты нашых суседзяў, дзе я спыніўся на адну толькі ноч у роднай вёсцы; яны чамусьці па чарзе заляталі і выляталі з гнязда, што знаходзілася найвышэй пад страхой, гуляючы і носячыся ў паветры і як бы развітваючыся з родным куточкам. Была і вясковая лазьня і размовы пасьля яе за позьняй вячэрай. І сустрэчы з вяскоўцамі, сябрамі і раднёй. Чаго толькі вартая нечаканая сустрэча з цёткай ля хаты майго прадзеда Ігната Мурзёнка - прама над хатай, менавіта ў гэты час, сімвалічна кружылася з паўсотні буслоў, якія звычайна ў гэты час збіраюцца ў вырай.

І квітнеючы прыгажун Мінск. А якія жанчыны! Незлічоная колькасьць «мадэлек», якія на каблучках несьлі сваю прыгажосьць па брукаваных ходніках горада.

І яшчэ шмат прыемных дэталяў, што прыносілі сустрэчы з Радзімай. Кожны момант і кожны дзень!



Сямёнавічы. Шаркаўшчына.
2013. Тут мае карані.

**Вёска**

*Ступіў з асфальта ў мяккую траву,*

*Адчуў бы ў вёсцы цьвёрдую зямлю;*

*З дзяцінства вёску родную люблю -*

*Трымае сьвет мой, у якім жыву.*

Свае развагі пра зьмены ў краіне за 15 год пачынаю з вёскі, дзе нарадзіўся і дзе прайшлі лепшыя ў жыцьці дзіцячыя і юнацкія гады. Не сакрэт, што шмат вёсак знікла з картаў, асабліва ў Віцебскай вобласьці, дзе вёскі ў сваёй большасьці невялікія, да 40 двароў. Так зьнікла вёска майго дзеда, Чарэмушнікі Падзісеныя ў Пастаўскім раёне. Такі ж лёс чакае і вёску майго прадзеда, вёску Сямёнавічы, што ў Шаркаўшчынскім раёне: там пражываюць цяпер толькі людзі старэйшага ўзросту – летам 4 мужчыны і 3 жанчыны, а на зіму застаюцца толькі двое мужчын. Астатнія з'яжджаюць да дзяцей бо не маюць сіл трымаць цяпло ў хаце ў зімовую сьцюжу. Пры мне ў вёску прыехала аўталаўка і нешматлікія жыхары вёскі куплялі тавары першай неабходнасьці.

Дабрацца да «паміраючых» вёсак, дарэчы як і да іншых, вельмі складана. Рэгулярныя аўтобусныя рэйсы ў вёскі Пастаўскага раёна вельмі нечастыя, 1-2 разы на тыдзень. Калісьці праз маю вёску, Дварчаны, кожны дзень было з дзесятак рэйсаў з Пастаў на Лынтупы, Гадуцішкі, Нарач, Вярэнькі. Відаць няма каму ездзіць, а другой прычынай можа быць занадта дарагое паліва (8-9 тыс. за літр). У той жа час, кошт праезду мясцовым транспартам недарагі і магчыма з цяжкасьцю пакрывае выдаткі. Так, напрыклад, праезд цягніком ад Варапаева да Полацка (140 км) каштаваў толькі 10 тысяч рублёў, г.зн. крыху больш аднаго долара (1 долар быў каля 9000 рублёў). Відавочна, што такія нізкія кошты абумоўлены сацыяльнай палітыкай улады, скіраванай на падтрымку неабходнага ўзроўню мясцовых паездак, тады як кошты праезду на міжнародных маршрутах на парадак вышэйшыя. Трэба заўважыць, што ў калгасных гаспадарках маюцца аўтобусы для падвоза сялян на працу, на палі, на фермы. Гэтыя ж аўтобусы выкарыстоўваюцца для дастаўкі ў школы дзяцей з вёсак, дзе школ няма ці яны зачыненыя з-за малой колькасьці дзяцей. Напярэдадні новага навучальнага года на Беларускім тэлебачаньні паказалі першыя аўтобусы, выпушчаныя МАЗам і прызначаныя спецыяльна для перавозкі дзяцей. 60 такіх аўтобусаў было дастаўлена ў беларускую глыбінку; відавочна, што гэта не так і многа (10 аўтобусаў на вобласьць), але ж першыя клапатлівыя крокі зроблены. Балюча было бачыць школу, дзе я вучыўся, бо яе вокны і дзверы былі замураванымі для таго каб папярэдзіць яе фізічнае знішчэньне (знайшліся аматары якія пачалі расьцягваць падлогу, сталяваньне і ўсё што дрэнна ляжала). У лепшыя гады ў гэтай школе, пабудаванай напачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя, навучалася да 120 дзяцей. На жаль, працэс выміраньня вёсак і,

адпаведна, закрыцьцё школ непазбежны падчас сучаснай глабальнай урбанізацыі.




Уклад жыцьця тутэйшых, каранных сялян зьмяніўся мала. Тыя з іх, якія маюць сілы, здароў'е і ня п'юць, жывуць нядрэнна. Але такіх гаспадароў засталося нямнога. Да прыкладу, калі пры савецкай уладзе ў вёсцы Дварчаны ў прыватным статку налічвалася да 60 кароў, то на сёньня ў вёсцы толькі 9 кароў. Статка цяпер няма, пастухі непатрэбны, бо кароў наважваюць на лузе хто дзе можа. Маючы двух кароў, свіней, сады і агароды добрыя гаспадары маюць капейку і магчымасьць вывучыць сваіх дзяцей, бо будучыні для іх у вёсцы бачаць не ўсе. Вядома, што працы са сваёй гаспадаркай вельмі многа. Назіраючы з самага ранку за хатнімі клопатамі пары спрытных гаспадароў бачыў, як зладжана яны працуюць; кожны з іх мае свае функцыі, рухі іх дакладныя, але не павольныя, бо трэба пасьпець зрабіць вельмі многа перад тым як яшчэ пайсьці і на працу ў калгас. Але ж і аддачу маюць – кожны дзень здаючы ў дзяржаву да 40 літраў малака (па 3000 рублёў за літр) толькі ад каровак можна за месяц атрымаць прыбытак ад 350 да 400 долараў (3-3.5 млн рублёў). Але ж калі такой гаспадаркі няма ці яна невялікая, то пры заробку ў 1.5 млн ў зімні час пражыць у калгасе шмат цяжэй. На жаль у гэтым годзе на вёску звалілася бяда ў выглядзе афрыканскай чумы свіней. Як будуць жыць беларусы без «кумпяка, каўбас, сала» – уявіць вельмі цяжка. Аднак яшчэ больш цяжка і прыкра было чуць, што гэтая “свіная

праблема” больш важная ў вёсцы, чым праблема беларускай мовы?!

Сярод істотных зьменаў, якія адбыліся на вёсцы трэба адзначыць будаўніцтва аграгарадкоў. Толькі ў 2006-2008 гадах у Беларусі было пабудавана 666 аграгарадкоў. Новыя, «прэзідэнцкія» дамы заўважны ў многіх існуючых вёсках, якія утвараюць своеасаблівыя мікрараёны. Я бачыў іх ва ўсіх раёнах дзе толькі праязджаў – яны бачны здаля, абкладзеныя белай цэглай, з featured рознакаляровымі дахамі, з тыповымі прыбудовамі. Такі мікрараён ёсьць і ў Дварчанах, які збудаваны на заходнім краю вёскі. У гэтых аграгарадках побач з выхадцамі з тутэйшых месц жыве многа прышлых людзей. Некаторых з іх можна аднесьці да людзей неўладкаваных, непасьпяховых, са складаным лёсам. Магчымай прычынай іх «непасьпяховасьці» з'яўляецца п'янства. Частка з гэтай катэгорыі людзей, па прычыне парушэньняў дысцыпліны або з-за нізкіх заробкаў, часта мігрыруюць з аднаго калгаса ў другі, дзе назіраецца недахоп працоўнай сілы. Да прыкладу, розьніца ў заробках даярак паміж калгасамі ў летні сезон можа быць вельмі істотнай (ад 2 да 5 млн рублёў). Як правіла заробкі даярак у зімні перыяд у два разы меншыя. Праца даярак, якія маюць каля 60 кароў у групе, цяжкая – улетку кожная дойка раніцай і вечарам займае каля 3 гадзін. Пры недахопе механізатараў падчас сяўбы і ўборкі ўраджаю з гарадскіх арганізацый у адміністрацыйным парадку мабілізуюцца спецыялісты, хто мае досьвед у гэтых сезонных работах. Падчас уборкі камбайнер можа зарабіць за 2-3 тыдні ад 10 да 20 млн рублёў. Большасьць сельскагаспадарчай тэхнікі, якая працуе на палетках, айчыннай вытворчасьці (Мінскага трактарнага завода, Лідсельмаша, Гомсельмаша). У канцы жніўня палі былі ўжо ўпарадкаваныя і вёска рыхтавалася да новага сезону – заорваліся палі, засяваліся азімыя.

Многія з людзей у аграгарадках жывуць толькі за кошт калгасных заробкаў і не вядуць уласную гаспадарку. Тым не менш асноўная маса дамоў у аграгарадках у належным стане, у парадку. Быў зьдзіўленым сьведкам наяўнасьці газона ў адным з такіх дамоў, гаспадары якога нават маюць газонакасілку. Такім чынам, паступова ў вёсцы становіцца ўсё менш каранных гаспадароў-сялян і расьце доля “наёмных сялян”. Можна казаць, што апошнія утвараюць новую катэгорыю працаўнікоў вёскі. У нейкім сэнсе гэта катэгорыя нагадвае працаўнікоў саўгасаў, што былі ў мінулыя савецкія часы. Фермерскія гаспадаркі пакуль што не гуляюць вялікай ролі і вырабляюць нязначную долю прадукцыі у краіне (толькі 6,1 % гародніны, 4,3 % воўны, 2 % бульбы, 1,4 % збожжа і цукровых буракоў, 0,5 % мяса) (Сельское хозяйство Республики Беларусь. Статистический сборник. Мн., 2011. 283 с.).

Тыя высілкі, якія зрабіла дзяржава для вёскі дае свой плён. Па-першае, людзі атрымалі нейкія гарантыі ў вырашэньні жыльлёвай праблемы – з цягам часу яны маюць права нават выкупіць жыльлё ва ўласнасьць. Па другое, значна павысілася вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі: ураджайнасць зерневых за апошнія тры пяцігодкі (1996-2000, 2001-2005, 2006-2010) вырасла з 20 цэнтнераў на гектар да 25.3 і 30 цэнтнераў, адпаведна. Валавая вытворчасць зерневых і зернебабовых, мяса і малака павялічылася на

пару дзесяткаў працэнтаў падчас апошняй пяцігодкі (2006-2010) у параўнаньні з папярэдняй (2001-2005), калі пачынала дзейнічаць дзяржаўная падтрымка вёскі. Пару апошніх год (2010, 2012) былі атрыманы рэкордныя ўраджаі зярна, па 9 млн тон (Сельское хозяйство Республики Беларусь. Статистический сборник. Мн., 2011. 283 с.). Колькі можа працягвацца такая сітуацыя на вёсцы прагназаваць цяжка. Але відавочна, што такая мадэль пакуль што пасьпяхова працуе.

**Горад**

Калі вы зойдзеце на сайты пасольстваў за мяжой, то знойдзеце, што галоўнае на што напіраюць расказваючы пра Беларусь – гэта «чысьціня і парадак». Сапраўды, усе хто вяртаецца з гасьцей адзначаюць чысьціню нашага Мінска. Магу пацьвердзіць, што гэта тычыцца не толькі Мінска. Тое ж можна сказаць і пра Брэст, Полацк і раёныя цэнтры, якія я наведваў таксама. Да прыкладу, быў прыемна здзіўлены, калі на другаснай вуліцы ў Паставах чалавек ва ўніформе прыбіраў з ходнікаў яблыкі, якія наваліліся з прыватнага сада. Справа не толькі ў чысьціні вуліц, якая падтрымліваецца камунальнымі службамі (вы можаце пабачыць на вуліцах шмат людзей у аранжавай вопратцы-уніформе). Адчуваньне чысьціні узмацняецца новымі прыгожымі будынкамі, новай архітэктурай. Да таго ж на панэлях дамоў у цэнтры Мінска, Брэста, намаляваны сюжэты на тэмы беларускай гісторыі. Вечарам дамы ў цэнтры Мінска выглядаюць нават казачна, бо падсвечаны рознакаляровай гамай. Цудоўна выглядаюць у дзённы час дамы ў Брэсьце, панэлі якіх размаляваны ў колеры, што радуюць пагляд. Безумоўна, нельга выключыць і культуру саміх беларусаў, бо ад іх паводзін і выгляду таксама складаецца вобраз чыстых і прыгожых беларускіх гарадоў, якія абсалютна па праву можна называць еўрапейскімі.

У які б раён Мінска не паехаў – паўсюль ідзе будаўніцтва. Нават у нядзелю вечарам у Верхнім горадзе працавалі людзі, машыны, краны. Відавочна, што такое шырокае будаўніцтва патрабуе інвестыцый. У размовах з людзьмі часта чуў пра пакупкі ўласнасьці ў розных рэгіёнах рэспублікі расійскімі людзьмі. У сваім інтэрв'ю ад 13 верасьня 2013 г. («Інтэрфакс») старшыня праўленьня Ашчаднага банка Расіі Г. Грэф адзначыў, што за апошнія тры гады гэты банк інвеставаў у эканоміку Беларусі 14 млрд долараў (3 млрд ў 2013 годзе). Відавочна, што шматлікія казіно ў Мінску існуюць на расійскія грошы. Можна думаць, што ігорны бізнэс дае нядрэнны прыбытак у дзяржаўную казну. Відавочна, што існуюць і іншыя расійскія крыніцы фінансаваньня беларускіх праектаў. Аднак, калі доля ўсяго расійскага капітала ўкладзенага ў эканоміку краіны будзе за межамі дапушчальнага, то можа стварыцца пагроза эканамічнай незалежнасьці Беларусі (адказ на пытаньне пра долю расійскіх грошай у агульным аб'ёме інвестыцый могуць даць эксперты). Для падтрымкі стабільнага і збалансаванага развіцьця эканомікі Беларусі патрэбны

альтэрнатыўныя інвестыцыі. Урад праводзіць палітыку заахвочваньня грашовых рэсурсаў з іншых краін. Толькі за апошнюю дэкаду жніўня ў Мінск прыязджалі на перамовы Прэзідэнты Балівіі і Шры-Ланкі, высокія дэлегацыі з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і Кітая, прэм'ер-міністр Мясніковіч знаходзіўся з візітам у Манголіі.

Дзяржава спрабуе выціснуць максімум з існаваўшай сацыялістычнай мадэлі вядзеньня гаспадаркі. У той жа час яна шукае шляхі для развіцьця беларускага бізнэса. На чарговым паседжаньні Савета па развіцьці прадрымальніцтва ў Беларусі, старшыня савета дырэктароў ААТ "Амкадор" А. Шакуцін адзначаў наступнае:"... Нельга будаваць заводы па савецкіх прынцыпах", "Поўная адсутнасьць кваліфікаваных кадраў. А значыць, мы сёньня павінны адбіраць найбольш "галавастых", адпраўляць на Захад вучыцца. Пасля яны будуць прыязджаць і вучыць іншых", "...беларуская вытворчасць утрымлівае да 40% лішніх людзей" (Звязда, 27 жніўня 2013). Віцэ-прэм'ер Беларусі П. Пракаповіч пацьвердзіў, што "колькасць людзей насамрэч большая, чым патрэбна". Толькі за першае паўгоддзе ў Міністэрстве прамысловасьці вызвалілася больш за 10 тысяч чалавек. Ён таксама заявіў, што ўжо сёлета чвэрць валавага ўнутранага прадукта (ВУП) павінна быць атрымана ад прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнэсу. Плануецца, што гэта лічба будзе павялічвацца (у 2015 годзе – не меней за 30%, а ў наступнай пяцігодцы "прыватны бізнес павінен ствараць 50% ВУП").

На здзіўленьне ў Мінску набудавана і будуецца шмат супермаркетаў. Цэны ў іх даволі «кусячыя» і здавалася б, што пры сярэднім заробку ў 500 даляраў там не ўбачыш шмат наведвальнікаў (у адным з нумароў «КП ў Беларусі» за жнівень месяц падавалася інфармацыя па сярэдніх заробках, якая ў Мінску была каля 700 долараў, і каля 500 долараў па абласьцях). Аднак жа вечарам ў адным з такіх супермаркетаў Мінска было людна і касы працавалі. Многія з тых людзей, з якімі я сустракаўся маюць магчымасьць паехаць на адпачынак на Азоўскае ці на Чорнае мора, або адправіцца ў турнэ ў якую-небудзь еўрапейскую краіну. Выглядае, што большасьць насельніцтва, за выключэньнем моладзі, задавальняе цяперашні стан жыцьця: сюды можна аднесьці непрацуючых пажылых пенсіянераў, пенсіянераў, якія яшчэ вымушаны працаваць (бо на адну пенсію пражыць складана), і працоўныя людзі з больш высокімі пазіцыямі, якія яны атрымалі па жыцьці. Значная колькасьць моладзі марыць з'ехаць ці знаходзіць магчымасьць працаваць у сумесных кампаніях не выязджаючы за межы краіны. Камунальныя паслугі ў Беларусі да гэтага часу даволі танныя: калі ўмоўна ўзяць пенсію ў 2.5 млн рублёў, то камунальныя паслугі будуць забіраць ад яе 5-15% (для 2-3 пакаёвай звычайнай кватэры нават у зімні сезон гэта складзе 125-375 тыс. рублёў, або прыблізна 15-35 долараў). Беларускі народ працавіты, цярплівы і відаць мае вялікія рэсурсы для выжываньня. Перажыўшы ў пачатку 2011 года дэвальвацыю амаль у 300%, ён чакае яшчэ адну, якая прагназуецца цяпер ў 20-30%. Ня дай Бог канешне, калі такое станецца, але зноў відаць сьцерпяць, бо дэвальвацыя будзе ў дзесяць разоў меншая, чым папярэдняя.

**Культура**

За год да майго ад'езду ў Канаду мне пашанцавала праехаць па некалькіх заходніх раёнах Беларусі. Наведваючы Ружаны, Косава безнадзейна думалася, што няўжо палацы канцлера ВКЛ Льва Сапегі (заснаваны ў 1598 г.) і графа Вандаліна Пуслоўскага (1838), якія яшчэ на той час не рассыпаліся зусім, дачакаюцца лепшых часоў. Якое ж было маё прыемнае здзіўленьне, калі прыехаўшы ў гэтыя месцы праз 16 год пабачыў рэканструяваны фасадны будынак палацавага комплекса ў Ружанах, дзе працягваюцца далейшыя работы па рэканструкцыі другой забудовы з правага крыла комплекса (рэканструкцыя пачата ў 2008 г.). Такую ж прыемнасьць паспытаў у Косаве, як тым, што ўжо многа зроблена, так і маштабам рэканструкцыі.



Гербы Сапегаў. Ружаны. 2013

Побач з Косаўскім палацам адноўлена сяліба, дзе нарадзіўся і жыў Тадэвуш Касцюшка. Тады, 16 гадоў таму назад, на гэтым месцы быў невялічкі манумент, на якім было напісана: «В доме, стоявшем на этом месте, в 1746 году родился Т. Костюшко – видный политический деятель Польши» (падкрэслена мной). Зараз на гэтым месцы збудаваны дом-музей Т. Касцюшкі з гаспадарчым будынкам і студняй і пастаўлены вялікі валун з наступным надпісам:

«1746.04.02-1817.15.10

Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына,

нарадзіўся

Андрэй Тадэвуш Банавентура

Касцюшка,

вялікі сын беларускай зямлі,

які ў далейшым стаў нацыянальным героем

Польшчы, ЗША, ганаровым грамадзянінам

Францыі

Удзячныя нашчадкі»

Уражвае сваёй веліччу і значнасьцю манумент у гонар 1000-годдзя Брэста пастаўлены ў 2009 годзе ў абласным цэнтры на вуліцы Савецкай; па перыметру асновы манумента на 12 бронзавых дошках прыведзены асноўныя звесткі аб гісторыі горада, пачынаючы з часоў калі ён знаходзіўся ў складзе Уладзіміра-Валынскага і Тураўскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага, і да нашых часоў.




На сялібе Т. Касцюшкі. 1997 год.






Вельмі прыемнай была і вандроўка па Полацаку: у цудоўным стане Сафійскі сабор і Еўфрасіньеўскі кляштар, Езуіцкі калегіум, адданы зараз Полацкаму універсітэту, велічна стаяць у горадзе новыя манументы Францыску Скарыне, Еўфрасіні Полацкай, князю Ўсяславу. У храме Святога Спаса, што ў Еўфрасіньеўскім манастыры, інтэнсіўна вядуцца рэстаўрацыйныя работы (удалося заглянуць у сярэдзіну і пабачыць 5-6 рэстаўратараў, што працавалі на розных узроўнях храма на падмосьцях).

Відавочна, што нават ва умовах крызісу ў дзяржаве знаходзяцца сродкі каб аднаўляць і будаваць помнікі і музеі. У Мінску прыемна было адкрыць для сябе, што экспанаты Нацыянальнага мастацкага музея зараз разьмешчаны не толькі ў асноўных памяшканьнях, але і ў нядаўна дабудаваным будынку; цікава было паглядзець як на архітэктуру дабудовы, так і на выставы, якія дзейнічалі на той дзень у музеі: «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага», «Слуцкія паясы», «Выстава трох абразоў са збораў найбуйнейшых музеяў Беларусі», персанальную выставу У. Пракапцова «Струны прасторы і часу». Два гады таму назад была адчынена новая мастацкая галерэя Міхаіла Савіцкага, у якой падчас майго візіту праходзіла выстава А. Кузьміча «Светаносны лік мадонн». У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (адкрыты ў маі 1998 года) наведаў выставу Вольгі Бабурынай «Правы выцінанкі».

Шкада, што час вандроўкі ў Беларусь быў даволі кароткім. Калі б яе можна было б падоўжыць, то наперадзе былі б наведваньні тэатраў Мінска, дзе сьпектаклі ідуць па некалькі разоў на тыдзень. Тым не менш, яшчэ да прыезду ў Беларусь было запланавана схадзіць на адкрыцьцё сезона ў Нацыянальным тэатры оперы і балета, і менавіта на прэм'еру новага балета «Вітаўт» (музыка В. Кузняцова, лібрэта А. Дударава). Быў аншлаг, але сябры набылі білеты загадзя. Цікавы факт: напярэдадні спектакля літоўцы, праз газету Lietuvos rytas, выказалі сваё незадавальненьне тым, што беларусы лічуць князя Вітаўта «беларускім героем». Тэматыка і сюжэт, музыка, дэкарацыі, масавыя сцэны ў спектаклі прынесьлі вялікую асалоду. Паводле інфармацыі гэты спектакль хутка будзе пастаўлены ў Тракайскім замку, так бы мовіць «у натуральных умовах».

**Мова**

Хоць пра стан беларускай мовы напісана шмат, але ў яе абарону трэба ўсё ж пісаць і пісаць. Свае думкі адносна моўнай праблемы часткова былі выказаны нядаўна ў першым нумары часопіса “Сакавік” (www.sakavik.net) таму тут падаюцца толькі кароткія нататкі, зробленыя падчас вандроўкі па Беларусі.

Што было прыемна:

- Чуць аб’явы на беларускай мове, якія рабіліся сцюардэсамі ў самалётах “БелАвіа” (двойчы, калі ляцеў з Рыма ў Мінск і з Мінска ў Рыгу);
- Чуць аб’явы прыпынкаў на беларускай мове ў метро і ў грамадскім транспарце ў Мінску;
- Бачыць назвы населенных пунктаў і назвы вуліц у Мінску па беларуску;

- Аднойчы ў аўтобусе, чалавек, які запытаўся “на какой остановке ему лучше выйти, чтобы попасть к Академии наук”, на мой адказ па-беларуску, раптам з задавальненьнем пачаў размаўляць са мной і прачытаў нават верш па-беларуску, праехаўшы яшчэ некалькі лішніх прыпынкаў;
- Чуць перадачы правадной сеткі Беларускага радыё - такія знаёмыя з дзяцінства;
- Чуць, як сьвятары і амаль дзьве тысячы вернікаў маліліся па беларуску ў Пастаўскім касьцёле падчас цырымоніі ўшанаваньня мошчаў Св. Тэрэзы;
- Слухаць беларускія мелодыі ў падземным пераходзе ў выкананьні дзьвюх дзяўчынак, якія адмовіліся ад узнагароды за музыку бо як аказалася іграюць бясплатна (сапраўды каля дзяўчатак не было “шапкі”);
- Як некаторыя сябры спрабавалі размаўляць са мной па беларуску (амаль добра атрымоўвалася).

Вось здаецца і ўсё.

Што не падабалася:

- Я нідзе ня чуў Мову ў Мінску (на вуліцах, у транспарце);
- Па-ранейшаму кіраўніцтва дзяржавы амаль не ўжывае Мову;
- Амаль усе вывескі на магазінах і рэклама падаецца на рускай мове;
- Дзеці ў вёсцы па-беларуску не размаўляюць, гэта з большага нейкая помесь рускай мовы, засмечанай беларускімі словамі, гэтакая “руская трасянка”;
- На чыгунцы, якая з’яўляецца стратэгічным аб’ектам, зараз усе аб’явы і назвы станцый на рускай мове;
- Ужо трэці год запар дзяўчынка Ялінка вучыцца адна ў адзіным беларускім класе Магілёва, у горадзе, які налічвае каля 370.000 жыхароў.

Ў дадатак прыпамінаецца нядаўняя прэс-канферэнцыя, на якой кіраўніку дзяржавы было зададзена пытаньне пра стан Мовы ў краіне, на што быў раздражнёны адказ, што «у нас нет никаких проблем з беларускай мовай». Сапраўды атрымліваецца, што няма мовы - няма і праблемы. За мінулыя 15 год стала значна меншай надзея на аднаўленьне і ўжываньне Мовы ў грамадстве.








**Мараль**

Нягледзячы на шмат якія пазітыўныя зьмены, што адбыліся за апошнія 15 гадоў, у Беларусі яўна чагосьці бракуе. Нават калі пакінуць па-за развагамі катастрафічна кепскія адносіны грамадства да Мовы, яго маральны стан павінен быў бы быць, у адпаведнасьці з законамі эвалюцыі, значна лепшым, маючы на ўвазе адносіны людзей адзін да аднаго, адносіны да падзей, што адбываюцца ў суседніх краінах і ў цэлым сьвеце, пачуцьцё справядлівасьці, рэлігійную талерантнасьць, і г.д.

Як і раней на экранах тэлевізараў падчас чарговых “разганяяў” можна ўбачыць нізка апушчаныя галовы міністраў ці іншых асоб вышэйшага рангу, уключна з афіцэрамі – кіраўнікамі сілавых структур. Відавочна , што дэпрэсіўны настрой падчас “разганяяў” магчыма часткова ці поўнасьцю перадаецца “вертыкальна” на галовы грамадзян, паступова губляючы негатыўны запал спускаючыся аж да ніжэйшага ўзроўню, да народных масс, якія там, унізе, не адчуваюць ці не хочуць успрымаць, што там калышацца

ў вярхах. Тыя хто мае заробкі, блізкія да сярэдніх па краіне, не дбаюць ні пра мову, ні пра незалежнасьць, ні пра беларускую ідэнтычнасьць. Усё вырашыць бацька. Хіба толькі, што на кухні традыцыйна крытыкуюць урад, і толькі самыя бяднейшыя, з заробкам менш за 1.5 млн рублёў, выказваюць элементы пратэста.

У нядаўнім апытаньні, якое праводзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаваньняў адказы беларусаў пра іх стаўленьне да палітыкі размеркаваліся наступным чынам: маё жыцьцё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй ня ўдзельнічаю, таму што гэта бескарысна (23.7%) ці небяспечна (11.1%); маё жыцьцё слаба залежыць ад палітыкі (22.5%); я не цікаўлюся палітыкай (34.2%). Такім чынам, 91.5% апытаных да палітыкі абыякавыя. Каментуючы гэтыя вынікі эксперты інстытута нагадалі, што "старажытныя грэкі называлі сваіх суайчыньнікаў, якія не цікавяцца грамадскімі справамі і не ўдзельнічаюць у сходах грамадзян, "ідыётамі" ("Народная Воля", 3 верасьня 2013). Відавочна, што асноўная частка беларускага насельніцтва жыцьцём задаволена і не дбае і не цікавіцца як унутранай, так і зьнешняй палітыкай краіны. Людзі, з якімі даводзілася размаўляць, у большасьці пазьбягаюць ці баяцца размоваў на гэтыя тэмы бо на самай справе не хочуць ніякіх зьмен у сваім сёньняшнім жыцьці. Разам з тым, большасьць насельніцтва залічае сябе да хоць і рускамоўных, але беларусаў (па тэрытарыяльнай ці этнічнай прыналежнасьці). Гэтакая "сарамлівая беларускасьць".

Чорнымі плямамі ляжаць на Беларусі нераскрытыя зьнікненьні дзеячаў апазіцыі В. Ганчара, А. Красоўскага, Ю. Захаранкі, знаходжаньне ў турме кандыдата ў прэзідэнты М. Статкевіча, марны стан паміраючай беларускай мовы. З чыёй-то маўклівай згоды вясной і восеньню 1999 года зьніклі фізічна вядомыя ў краіне людзі, Ганчар, Захаранка, Красоўскі. Як нядаўна заявіў юрыст Г. Паганяйла ("Хартыя 97", 13.02.2013) «Мы зыходзім з таго, што ўсе агульнакрымінальныя версіі расследаваны і не знайшлі пацверджання. Засталася нерасследаванай адна працоўная версія - палітычна матываваная. Яна заключаецца ў датычнасці вышэйшых службовых асобаў дзяржавы да выкраданняў людзей". У наступным 2014 годзе мінае тэрмін даўніны па расследаваньні крымінальных спраў зьніклых беларускіх апазіцыянераў, але адказу на пытаньне хто гэта зрабіў, і дзе падзеліся целы зьніклых – няма. Вось так – целаў няма і праблемы няма. Выходзіць, што хутка і юрыдычна праблема будзе закрыта? Усё ж цяжка ўявіць, што гісторыя з цягам часу можа спісаць адказнасьць за адсутнасьць "праблемы мовы і праблемы целаў" у беларускай дзяржаве. Брат майго дзеда, Мурзёнак Сяргей Ігнатавіч, маладым дзяцюком пайшоў з Заходняй Беларусі ў Саветы за лепшай доляй, вывучыўся настаўнікам, працаваў народным суддзём 54-га участка Мінска. Зьнік у жніўні 1937 года. Тое, што ён быў асуджаны 17 лістапада 1937 года да вышэйшай меры як польскі шпіён, а яшчэ праз 5 дзён растраляны ў Мінску хоць і праз некалькі дзесяткаў гадоў, але стала вядома (www.marakou.by). На жаль, родныя ніколі не дазналіся дзе яго магіла, але найбольш верагодна ён пахаваны ў Курапатах.




Трэцяга ліпеня насельніцтва Беларусі сьвяткуе Дзень незалежнасьці, якое яно бяздумна ўсталявала на гэты дзень падчас справакаванага рэферэндуму. Незалежнасьці ад каго – ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў? Так, вызваленьне Мінска ад заваёўнікаў трэба сьвяткававаць. Але ж у гісторыі Беларусі ёсьць шмат іншых слаўных дат, якія маюць прамое дачыненьне для самага важнага Дзяржаўнага сьвята (25 сакавіка, 25 жніўня). Магчыма беларускія людзі прынялі б другое рашэньне з гэтай нагоды калі б былі належным чынам праінфармаваны і адукаваны. Але насельніцтвам, якое належным чынам інфармавана, было б значна цяжэй кіраваць. Не апошнюю ролю ў дэзінфармацыі людзей Беларусі іграюць журналісты, што працуюць у афіцыйных сродках масавай інфармацыі. Якая мараль у журналістаў БТ, якія праз пару дзён пасьля арышту 26 жніўня топ-мэнэджэра "Уралкалія" госп. Баўмгертнера, абвінавацілі апазіцыю ў тым, што тая патрабуе вызваленьня гэтага чалавека, кажучы, што маўляў вось так "пятая калона" клапоціцца аб дабрабыце краіны і беларускіх шахцёраў. Ніякай спасылкі на прозвішчы, даты, арганізацыі, хто, калі, і дзе гэта сказаў – поўная непавага да саміх сябе, да прафесіянальнай падачы інфармацыі ды яшчэ ставячы кляймо "пятай калоны" на людзей, якія туды ніяк не адносяцца. У гэтыя ж дні ў «Советской Белоруссии» можна было

знайсьці цэлую старонку трафарэтных савецкіх абвінавачваньняў у адрас кіраўніцтва «Уралкалія» з боку працоўных; магчыма яно і заслугоўвала гэтага, але чамусьці выглядала, што тыя абвінавачваньні напісаны ў адным стылі, як бы адной рукой. У той жа газеце амаль кожны дзень публікуюцца анты-амерыканскія, анты-заходнія матэрыялы ў стылі халоднай вайны, быццам сьвет і не мяняўся апошнія 40-50 гадоў і галоўны вораг яшчэ пагражае менавіта адтуль.

Як было ўжо адзначана, назвы вёсак і гарадоў і вуліц у многіх населеных пунктах даюцца па-беларуску, што вельмі радуе. Аднак, выключэньнем быў горад Полацак. Там бачыў толькі адну вуліцу з назвай па-беларуску – гэта вуліца Еўфрасіньі Полацкай, якая ідзе ад цэнтра горада да аднайменнага манастыра. Відаць крохі сумленьня ў Полацкага кіраўніцтва засталося, інакш было б падпісана па рускую, як і паўсюдна на шыльдах іншых вуліц. Гэты прыклад не адзіны; беларусафобія можа праяўляцца ў розных формах і растлумачыць прычыны яе ўзнікненьня часам вельмі складана. Для прэм'еры балета «Вітаўт» праграма сьпектакля была надрукавана на дзьвюх мовах, рускай і англійскай. Здавалася б тэматыка сьпектакля вельмі ж ужо беларуская ды і ўсе замежныя гледачы змаглі б прачытаць праграму па англійску, дык не, знайшліся беларусафобы і ў Нацыянальным тэатры оперы і балета, відаць "засароміліся" таго, што інфармацыя пра балет, які магчыма стане міравым шэдэўрам, будзе дадзена на беларускай мове. Абсурдным выглядаюць і рэпетыцыі ў беларускіх тэатрах на рускай мове, тады як самі сьпектаклі ідуць на роднай мове (Радыё "Свабода", 29 мая 2013 г.).

**Заключэньне**

Беларусь выглядае сучаснай еўрапейскай краінай. У ёй прыгожыя людзі, вёскі і гарады, цудоўная прырода. За апошнія 15 год краіна стала значна прыгажэйшай і багацейшай. Відавочна, што дасягнутыя посьпехі з'яўляюцца як вынікам звычайнага эвалюцыйнага развіцьця грамадства, так і вынікам тых высілкаў, якія рабіліся ўрадам. Не прызнаваць апошняе, гэта значыць пачынаць спрэчку аб тым, што было б, калі б развіцьцё краіны ішло па іншаму шляху.

Многа сродкаў дзяржава ўклала для падтрымкі сяла, што прывяло да паляпшэньня умоў жыцьця сялян і да значнага павышэньня вытворчасьці сельгаспрадукцыі. Уклад жыцьця каранных сялян зьмяніўся нязначна, аднак трэба адзначыць, што ў вёсцы з'явілася новая катэгорыя «наёмных» працаўнікоў, і што для правядзеньня сезонных работ у адміністрацыйным парадку мабілізуюцца неабходныя спецыялісты з горада. Доля прыватнага бізнэсу ў эканоміцы Беларусі невялікая, не больш 3% на вёсцы і каля 20% у горадзе. Верагодна, што цяжкасьці, зьвязаныя са зьменамі ў структуры эканомікі, яшчэ





наперадзе. Шмат зроблена ў аднаўленьні і будаўніцтве турыстычных аб’ектаў, уключаючы музеі і даўнейшыя закінутыя палацы.

Зьнешнія “чыстата і парадак” кантрастуюць з хранічнымі, пакуль невырашанымі праблемамі. У дзяржаве поўная беларускамоўная катастрофа – адсутнічае сапраўднае, раўнапраўнае ўжываньне Мовы, што сталася вынікам амаральнай бяздзейнасьці ўладаў. З другога боку, моўная праблема заўважна цяпер нават у вёсках, дзе дзеці размаўляюць на «рускай трасянцы», што азначае згоду бацькоў на такую ненатуральную моўную трансфармацыю. Часткова, у павольнае выміраньне Мовы ўносяць свой уклад беларусафобы. Нягледзячы на адсутнасць афіцыйнай забароны на ўжываньне беларускай мовы праявы дзейнасьці беларусафобаў можна назіраць вельмі часта (гл. прыклады вышэй: назвы вуліц у Полацку, праграма балета “Вітаўт”, аб’явы і назвы станцый на чыгунцы, і інш.).

Цяжка сказаць, што ў беларускай дзяржаве існуе маральнае адзінства. У краіне людзі пакутуюць за свае палітычныя погляды. Пераважная большасьць беларускага насельніцтва, бадай за выключэньнем моладзі, не цікавіцца будучыняй сваёй краіны і сваіх дзяцей, а жывуць сёняшнім днём, які, верагодна, іх задавальняе. Магчыма памяркоўным беларусам дадаецца і абыякавасьць, што вынікае з ваганьняў кіраўніцтва паміж усходам і захадам. Гэтаму ж спрыяе дзяржаўная прапагандысцкая машына, выкарыстоўваючая старыя падыходы часоў халоднай вайны. Магчыма, што сёняшняму настрою ў грамадстве адпавядала б будаўніцтва нейтральнай дзяржавы, што між іншым прапісана ў Артыкуле 18 Канстытуцыі: «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю без'ядзернай зонай, а дзяржаву нейтральнай». Аднак іншыя маральныя прынцыпы выкарыстоўваюцца пры вызначэньні напрамку развіцьця дзяржавы (будаўніцтва “ліній Сталіна”, анты-заходняя прапаганда), што ў значнай меры аддаляе магчымасьць далучэньня Беларусі да сям'і еўрапейскіх народаў, дзе дзейнічаюць іншыя маральныя каштоўнасьці.

**Summary**

## BELARUS. 2013. DATE WITH HOMELAND

Piotra Murzionak

Belarus looks like a modern European country. Belarus has beautiful people, villages and cities, gorgeous nature. Over the past 15 years, the country has become much more beautiful and more prosperous. Obviously, the achievements it has are the result of normal evolution of society and the result of the efforts undertaken by the government as well. Not to recognize the latter means

to start a dispute about what would happen if the development of the country was going the other way.

The state has invested a lot of money to support the village, which in turn led to a significant increase in quality of life of peasants and in growing of agricultural production. Contribution to the life style of peasants has changed slightly, but it should be noted that in the village there is a new category of 'salaried' workers, and that for seasonal work the necessary professionals from the city are mobilized through administrative resource. The share of the private sector in the economy of Belarus is small, no more than 3% in the village and around 20% in the city. It is likely that the difficulties associated with changes in the structure of economy is yet to come. Much has been made in the restoration and construction of tourist facilities, including museums and ancient abandoned palaces.

External 'cleanness and order' are in contrast to chronic, unresolved problems in the society. There is a full Belarusian language disaster in the state – the real, equal use of native language is absent because of the immoral government inactivity. On the other hand, the language issue is now noticeable even in the villages, where children speak 'Russian trasyanka', which evidences a parental consent to such unnatural linguistic transformation. In part, belarusophobs contribute to the slow extinction of Belarusian language. Despite the absence of an official ban on the use of the Belarusian language the manifestations of belarusophob' activities can be observed very often (see examples above for street names in Polotsk, program of the ballet 'Vytautas', advertising and railway station names, etc.) .

It is difficult to say that there is a moral unity in the Belarusian state. In the country, people are suffering for their political views. The vast majority of the Belarusian population, perhaps with the exception of youth, is not interested in the future of their country and their children, and live for today what probably suits them. Perhaps, an additional negative impact on tolerant Belarusians gives indifference which follows from the government vibrations between east and west. The state propaganda machine, using the old approaches of the Cold War, also contributes to that. It is possible that today's public sentiment would be consistent with the construction of a neutral state, which in fact spelled out in Article 18 of the Constitution: 'The Republic of Belarus has a purpose to make its territory of a nuclear-free zone and the neutral state'. However, the other moral principles are used in determining the direction of development of the state (the construction of 'Stalin Lines', an anti-Western propaganda) which greatly postpones the opportunity for Belarus to join the family of European nations where there are different moral values.

***Ірына Хадарэнка**, пісьменніца*

**КРАІНА КВАЗІ**

*Яны прайшлі няшмат перад тым, як заўважыць удалечыні Чарапаху Квазі, што ў самотнай адзіноце сядзеў на невялікім скальным выступе. Наблізіўшыся, Аліса пачула, што ён ўздыхвае так, нібыта разрывалася сэрца. Яна моцна пашкадавала яго. "Чаму ён такі сумны?" – запыталася дзяўчынка ў Грыфона, і Грыфон адказаў ёй амаль, як і раней: "Гэта ўсяго толькі выдумкі! Няма чаго яму сумаваць. Хадзем!" І яны падышлі да Чарапахі Квазі, які зірнуў на іх вялікімі, напоўненымі слязамі вачыма, нічога не сказаўшы.*

***Льюіс Кэрал. "Аліса ў Краіне Цудаў"***

Шмат дзівосаў назіраю я апошнім часам у роднай старонцы. Пачало нават падавацца, што быццё працякае ў нейкай quasi-рэчаіснасці, дзе з'явы пераважна існуюць толькі ўмоўна-віртуальна, на ўзроўні платонаўскіх "ноўменаў". Тут міжволі суаднясеш сябе з Лао-цзы і ягоным сном пра матыля. Чаго толькі тут няма! Усё маецца, бадай. Але найчасцей – з экзатычнай вербальнай прыбудовай "таксванасці".

Вось, напрыклад, у нас існуе Так Званы Прэзідэнт і Так Званая Апазіцыя, Так Званыя Выбары і Так Званы Парламент, Так Званая Эліта і Так Званы Электарат, Так Званая Навука і Так Званая Гаспадарка. Ёсць яшчэ Так Званая Інтэлігенцыя, якую, праўда, ніхто не чуе, бо голас яе занадта ціхі і выказваецца яна рэдка. Ёсць Так Званыя Прадпрымальнікі, на інтарэсы якіх чыноўнікі проста не зважаюць, пакуль не атрымаюць або хабар знізу або пендаль звыш. Аніяк мы не можам абысціся і без Так Званых Ворагаў, якім супрацьстаяць Так Званыя Змагары.

А Так Званыя Зоркі Эстрады! Гэта ж увогуле унікальны феномен, які немагчыма аналізаваць у цвярозым стане, абапіраючыся толькі на здаровы сэнс. І, бясспрэчна, нам вельмі патрэбны шэраг Так Званых Святаў, абсалютная большасць з якіх вылучаецца гэткай жа абсалютнай штучнасцю.

А на што скіроўвае свой імпэт шэраг Так Званых Інтэлектуалаў? Посткаланіяльныя даследаванні, гісторыя фемінізму, ушчымленне сэкс-меньшасцяў, пашырэнне ведаў пра Халакост, візуальный дыскурс, герменеўтычныя канатацыі… Нічога, што ментальнасць многіх беларусаў па-ранейшаму так і засталася на ўзроўні "тутэйшасці", але без гэтых кодавых трэндаў, паводле іх меркавання, нам аніяк немагчыма ўвайсці ў пачэсную лігу еўрапейскай супольнасці.

І ўсё гэта, мабыць, было б смешна, калі б не было такім сумным. Таму што замест Краіны, у якой прагнулася б жыць, узнікае Дзяржава, ад якой хочацца збегчы. Замест Нацыі, якой варта было б ганарыцца, паўстае Насельніцтва, за якое бывае сорамна. А галоўнае: ставіць дыягназы і знаходзіць вінаватых мы навучыліся выдатна, а вось што рабіць з гэтым далей – тут пачынаецца няўцямнае мыканне і разгубленае пачухванне патыліцы.

Так Званымі Аналітыкамі створаны цэлы веер Так Званых Стратэгій выйсця краіны з эканамічнага крызісу. Але разам з тым не пададзена ніводнай дакладнай і добра абгрунтаванай канцэпцыі рэформ у сацыяльна-культурнай сферы. Як у працэсе бюджэтавання, так і ў разнастайных палітычных пракламацыях для культуры звычайна адводзіцца месца ў завуголлі.

Чаму пытанні культуры падаюцца мне больш важкімі за эканамічныя? Бо эканамічныя сістэмы вынікаюць з каштоўнаснага падмурка, як расліна з насення. Карл Маркс, канешне, быў асобай кемлівай (асабліва, калі ўлічыць, што асноўную частку жыцця ён нідзе не працаваў, займаўся пісанінай і жыў за грошы сваёй жонкі і сябра Ф. Энгельса – гэта трэба ўмець так уладкавацца!), але, як і кожны чалавек, ён меў права на памылку. Сёння яго з лёгкасцю аспрэчвае Фрэнсіс Фукуяма, сцвярджаючы: "Неразуменне таго, што асновы эканамічных паводзін палягаюць у вобласці свядомасці і культуры, прыводзіць да распаўсюджанай памылкі, згодна з якой матэрыяльныя нагоды прыпісваюцца тым з'явам, якія ў асноўным належаць да сферы духу".

Інакш кажучы, базіс і надбудова могуць змяняцца месцамі. Кодэкс пратэстацкай этыкі прывёў да эканамічных рэформ у Германіі. Патэрналісцкія арыентацыі дапамаглі японцам хутка пераадолець наступствы Другой сусветнай вайны і пабудаваць моцную прамысловасць. Савецкая ідэалогія спавадавала манструозную каманднаадміністратыўную сістэму кіравання гаспадаркай, якая павалілася, як карткавы дамок, адразу пасля зруйнавання ідэалаў камунізму. Нягледзячы на гэта, пытанні культуры ў нас сціпла таўкуцца апошнімі ў чарзе актуальных праблем, а ў пракламацыйных праграмах палітычных лідараў займаюць у лепшым выпадку пару абзацаў.

Пачынаць жа трэба з дакладнага і канчатковага адказу на пытанне, якое знаходзіцца ў "падвешаным стане" ўжо больш за стагоддзе: хто мы ёсць? І што адносіцца да беларускай культуры, а што аніяк з ёй не спалучаецца. Бо калі пакінуць гэта на самацёк – знойдуцца ахвотнікі, якія вызначаць гэта за нас. На іхніх умовах, вядома. Нам вельмі пераканаўча раскажуць, якімі мы, беларусы, спрадвеку былі "халопамі", "лапатнікамі", "калгаснікамі", і ахвотна пакажуць, у якім кірунку мы абавязаны рушыць далей (пад "чулым кіраўніцтвам" звонку). Калі ж працягваць бязглузда скідваць усё да купы без адпаведнага

вызначэння ідэйна-каштоўнасных прыярытэтаў, дык мы ніколі не выкараскаемся з той балоцвіны, у якую самі сябе загналі ў мэтах элементарнага выжывання.

Пры гэтым варта абапірацца на шэраг істотных фактараў:
- Этнічнае паходжанне (можа быць змяшаным) – асабліва ў гістарычным і сацыякультурным аспектах;
- Самаідэнтычнасць (можа быць падвойнай) – асабліва ў сучасны “постнацыянальны” перыяд;
- Мова (фактар дамінантны, але не вызначальны).

Але галоўнае – *носьбітам і рэтранслятарам якіх культурных традыцый* з’яўляемся ўсе мы разам і кожны жыхар Беларусі паасобку. Мы прызвычаіліся адносіць Францыска Скарыну і Міколу Гусоўскага да ліку беларусаў, але яны самі, мабыць, пачуўшы гэта, былі б моцна здзіўленымі такому азначэнню. З іншага боку, складана прадказаць, якім будзе беларус XXII стагоддзя. І ці будзе ён увогуле, улічваючы імклівае размыванне нацыянальных адметнасцяў у акіяне сучасных глабалізацыйных працэсаў.

Сёння ж падаецца відавочным, што цалкам недарэчна лічыць беларусам, напрыклад, іміграна з Афганістана, які, хоць і жыве ў Беларусі на працягу дзесяцігоддзя, але ўсведамляе сябе менавіта афганцам, размаўляе на працы па-руску, а дома на мове пушту (беларускую, магчыма, разумее на ўзроўні некалькіх фраз), гісторыі Беларусі не ведае ўвогуле, да беларускіх святаў ставіцца абыякава. Такіх асоб мы ўключаем у насельніцтва Беларусі, але лічыць іх, паводле грамадзянскай канцэпцыі нацыі, беларусамі, будзе памылковай пазіцыяй. Супрацьлеглае становішча можна разгледзець на прыкладзе вядомага музыкі і шоўмэна Андруся Такіданга. Цёмнаскуры хлопец, у якога маці – беларуска, бацька – з Афрыкі, стварае песні з выкарыстаннем мясцовых фальклорных традыцый, а на беларускай мове размаўляе так, што некаторыя карэнныя прадстаўнікі нацыі могуць пазайздросціць. Дык чаму б не лічыць яго беларусам? Тым больш, калі ён сам усведамляе шчыльную повязь з Беларушчынай. А дзіцяці, народжанае, напрыклад, у ЗША, але ад бацькоў-беларусаў – хіба яно аўтаматычна становіцца амерыканцам? Паводле грамадзянства, мабыць, так, але не паводле этнічнай прыналежнасці.

Гэтаксама мы не можам лічыць “нашымі” Дастаеўскага і Шастаковіча, як бы моцна нам гэтага не хацелася. Хоць карэнні дадзеных геніяў і вядуць да беларускай зямлі, але змест іх творчасці ды іхняе самаўсведамленне аніяк гэтага не адлюстроўваюць. Зразумела, калі хтосьці дасягнуў пэўнай вядомасці, як, напрыклад, Марк Шагал або Айзек Азімаў, дык кожная краіна, з якой быў звязаны шлях гэтай асобы, пачынае спробы “персанальнай прыватызацыі”. Але нарадзіцца на беларускай зямлі і прынесці ёй нейкі істотны плён – зусім не тоесныя рэчы. Напрыклад, які ўнёсак у беларускую культуру зрабіў Шымон

Пэрэс? Тое, што ён нарадзіўся ў Беларусі, робіць яго ўсяго толькі нашым земляком, але не больш за тое. Іншая справа – Змітрок Бядуля, без якога беларуская літаратура відавочна абяднела б. Або Ўладзімір Мулявін – ці ж можна ўявіць гісторыю беларускай музычнай культуры без ягонай прысутнасці?

Сустракаюцца ў публічнай прасторы і досыць абуральныя рэчы. У прыватнасці, у лік “Імёнаў Беларусі” трапіў… Маер Ланскі! Вось нават хто прызваны “ствараць пазітыўны вобраз Беларусі” – ашуканец і ганстэр, які нарадзіўся ў Гародні ў жыдоўскай сям’і, што эмігравала ў ЗША. Але, прабачце, які ўвогуле стасунак ён мае не толькі да беларускай гісторыі і культуры, але і да сусветнай?! Ці зараз модна ствараць герояў з былых нягоднікаў? І што гэта за дзіўныя спробы прывязаць да Беларушчыны тое, што не мае да яе аніякага дачынення? Спадзяванні на тое, што памяркоўны беларускі “піпл усё ха́вае”?

У сваю чаргу моўнае пытанне падаецца адным з ключавых у працэсе нацыянальнай ідэнтыфікацыі. Папулярныя на абывацельскім узроўні параўнанні моўнай сітуацыі ў Беларусі са станам рэчаў у Швейцарыі і Канадзе, дзе існуе шматмоўе, з’яўляюцца абсалютна не карэктнымі. Больш адпаведным было б параўнанне з выкарыстаннем гэльскай мовы ў Ірландыі. Афіцыйна замацаванае ў РБ дзвюхмоўе ў рэчаіснасці забяспечыла абсалютную дамінацыю рускай мовы і паступовае выцісканне мовы беларускай з паўсядзённага ўжытку. Палепшыць сітуацыю магло б вяртанне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы з адначасовым наданнем рускай мове статусу прыярытэтнай у галіне міжнацыянальных зносін.

Патрабуецца таксама шэраг адпаведных крокаў у моўнай палітыцы: аднаўленне беларускай мовы ў якасці асноўнай мовы дзелавых зносін у дзяржаўных установах, увядзенне абавязковага кваліфікацыйнага тэсту на веданне мовы для асоб, якія прэтэндуюць на кіраўнічыя пасады (як у дзяржаўнай, так і ў недзяржаўнай сферах) і адпаведнага сумоўя для прэтэндэнтаў на атрыманне беларускага грамадзянства, усебаковае пашырэнне выкладання і выхавання па-беларуску ў адукацыйных установых (ад дзіцячых садкоў да ўніверсітэтаў), увядзенне нарматыву аб змяшчэнні беларускамоўнай інфармацыі на ўпакоўках і этыкетках тавараў, а таксама ў рэкламных абвестках і роліках, поўны перавод інфармацыйных блокаў дзяржаўных тэле- і радыёканалаў на беларускую мову, захаванне дзяржаўнага фінансавання толькі для беларускамоўных перыядычных выданняў, абкладанне адмысловым падаткам распаўсюдвальнікаў рускамоўных кніжных і музычных прадуктаў, арыентаваных на масавага спажыўца і г.д.

Далёка не апошнюю ролю ў нацыянальнай самаідэнтыфікацыі грае рэлігійны чыннік. Яшчэ са старажытных часоў у Беларусі назіралася такая градацыя: праваслаўны –

значыць, рускі, каталік – адпаведна, паляк. Спроба пераадолець канфесійную звадку ўжо здзяйснялася шляхам утварэння ўніяцтва, якое, аднак, было амаль знішчана дзякуючы рэлігійнай агрэсіі з Усходу. Сёння ж дзейнасць Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі канцэнтруецца не толькі на ажыццяўленні сакральных практык, але і на ўпартым прасоўванні сярод вернікаў прарасійскіх арыентацый, часам нават з непрыхаваным палітычным адценнем. Выйсце магло б палягаць ва ўзмацненні пазіцыі Беларускай аўтакефальнай царквы з лакальным самакіраваннем, а не існуючым суцэльным падпарадкаваннем Маскоўскаму патрыярхату. Нельга забывацца і пра існаванне іншых рэлігійных супольнасцяў, а таксама атэістаў і паганцаў, інтарэсы якіх увогуле ігнаруюцца дзяржавай. Нягледзячы на задэклараваную ў Канстытуцыі роўнасць веравызнанняў, РПЦ фактычна заняла асноўную частку ідэалагічнай нішы ў сучасным грамадстве, якое відавочна патрабуе секулярызацыі.

Наступная велізарная праблема – нацыянальная гістарыяграфія. Што перш-наперш робіць кожная новаспечаная ўлада? Правільна, перапісвае падручнікі гісторыі. Таму што, мабыць, няма на свеце іншай такой навукі, настолькі моцна залежнай ад інтарэсаў кіруючых колаў. Зрэшты, адносна гісторыі Старажытнасці і ўвогуле можна засумнявацца ў аб’ектыўнасці прадстаўленых звестак – ну як можна апісаць асаблівасці грамадскага ладу і побыту некалькі тысячагоддзяў таму, маючы перад сабой толькі некалькі гліняных ашчэпкаў? Тут хутчэй ствараецца каля-навуковае фэнтэзі, а не грунтоўнае даследаванне. Таму комплекс “прыгнечанай нацыі” шмат у чым прадукуецца і актуальнай ідэйнай скіраванасцю гістарычных матэрыялаў. Беларусы сядзяць у скрусе і марудна разважаюць, чаму іх з усіх бакоў ціснулі на працягу стагоддзяў, а тым часам літоўцы хуценька раскручваюць ідэю аб жамойцкай дамінацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім, а расіяне выстаўляюць свае знішчальна-захопніцкія ваенныя паходы як высакародныя ратавальна-вызваленчыя акцыі. І пакуль у нашай гістарычнай літаратуры на пярэднім плане будзе свяціць гэтая татальная “прыгнечанасць”, ні пра які ўздым нацыянальнай самасвядомасці размова ісці не можа. Проста інфармацыйны ракурс гістарычных фактаў для гэтага абсалютна неспрыяльны. А змяніць яго не толькі можна, але і неабходна.

Даўно ўжо надышоў час беларусам пераключыць у галаве адпаведны тумблер і замест таго, каб павольна займацца адной толькі кансервацыяй ацалелых аўтэнтычна-этнаграфічных артэфактаў, перайсці да актыўнага прасоўвання сваіх культурных здабыткаў на сусветную глебу, то бок змяніць ахоўную стратэгію на экспансіўную! За апошнюю чвэрць стагоддзя, бадай, самай “пакрыўджанай” у плане канструктыўнага развіцця стала сфера адукацыі і асветніцтва. Сістэма рэтрансляцыі ведаў у айчынных школах і ВНУ застыла на ўзроўні перыяду перабудовы. Шматлікія рэформы, якія пераважна праводзіліся знянацку, толькі пагоршылі і без таго сумнае становішча ў гэтай галіне, дзякуючы чаму мы назіраем жахлівую дэградацыю малодшага пакалення,

інтэлектуальны ўзровень якога, здаецца, дэманструе працэс, адваротны эвалюцыі. Больш за тое, у Беларусі дагэтуль няма ніводнага нацыянальнага ўніверсітэта, дзе выкладанне цалкам вялося б на беларускай мове. Больш за палову сучасных маладых людзей адкрыта выказваюць жаданне з'ехаць за мяжу, бо не бачаць у роднай краіне ніякіх светлых перспектываў, а слова "патрыёт" вельмі часта выклікае ў моладзі з'едлівыя ўсмешкі.

Асаблівая роля ў фарміраванні сістэмы каштоўнасцяў і светаўспрымання належыць літаратуры. Тыя творы, якія разглядаюцца на ўроках літаратуры ў школе, фарміруюць не толькі асобу вучня, але і ягонае стаўленне да свайго народа. У нас жа ў школах, яшчэ, мабыць, з часоў існавання ў складзе Расійскай імперыі, асноўная ўвага прыпадае на вывучэнне рускай літаратуры, якую насамрэч варта было б вывучаць не асобна, а ў кантэксце літаратуры сусветнай. Што да праграмы па беларускай літаратуры, дык складваецца ўражанне, што яна фарміравалася з арыентацыяй на пазіцыянаванне вобраза беларуса, апісанага яшчэ Някрасавым: змардаваны трасцаю, худы і хворы небарака.

У сваю чаргу некаторыя маладыя прадстаўнікі Так Званай Сучаснай Беларускай Літаратуры не перастаюць здзіўляць не толькі абсалютнай адасобленасцю ад найважнейшых праблем грамадства, але і жахлівай безгустоўнасцю на мяжы з прымітыўным блазнерствам. Нягледзячы на тое, што там-сям раз-пораз чуецца трывожны набат аб жалосным становішчы беларускай мовы, гора-літаратары, здаецца, радасна імкнуцца пазабіваць свае цвікі ў створаную для яе труну. Вось якія "шэдэўральныя" думкі дэманструюць папулярныя выступоўцы на літаратурных імпрэзах і ўдзельнікі гучнага (у абодвух сэнсах) праекта "Літрадыё": "У планету ўрастаюць валасы з маіх яйцаў, сівыя валасы з правага яйца, чорныя валасы з яйца левага" (А. Адамовіч), "Мая галава як пусты жбан, там нічога няма, што б магло зацікавіць" (Н. Манцэвіч), "Мне нехта неяк сказаў, што мерцвякі вачыма ня лупаюць. Гэта было недзе ў мэтро ці грамадскай прыбіральні. Карацей, сказалі, а я і паверыў. Дурань" (А. Пакроўскі), "Памрэм ад п'янства, як і ён, – няхай. Што нам губляць?.. Сцяпане, разлівай!" (С. Прылуцкі), "Што праўда – то праўда: год атрымаўся не лепшым чынам: не ратавала ні дуля ў кішэні, ні ў сэксалогію ўводзіны" (П. Свярдлоў), "Я таксама паэт! Камерсант вершаванай прадукцыі – душэўныя песні пішу для вылучаных на "Еўрабачанне". Далібог, канкурэнцыя жорсткая, вельмі складана прасунуцца, таму насамперш я зрабіўся гаўном сабачым" (Ц. Хоміч). Такім адмысловым чынам беларускага чытача аўтары нягеглых сачыненняў спрабуюць, як ім падаецца, "еўрапеізаваць", хоць насамрэч – проста зняважыць і абалваніць.

Правакацыя ў мастацкай творчасці – рэч папулярная і часам неабходная. Правакацыя ў перфомансах і аўтарскіх тэкстах дае магчымасць прыцягнуць увагу, больш дзейсна паўплываць на эмацыянальную сферу аўдыторыі і ў алегарычнай форме выказаць тое, што цяжка тлумачыцца традыцыйнымі камунікацыйнымі сродкамі. Але калі апроч правакацыі

і спекулявання на інстынктах натоўпу творцам няма чаго прапанаваць – гэта ўжо сумнае відовішча. І трагедыя ўдвая, калі ўсё гэта графаманскае смецце пачынае ўпарта прасоўвацца і наўмысна навязвацца ў якасці тыповых ўзораў актуальнай творчай дзейнасці. Такія рэчы шкодзяць не толькі самім аўтарам, заганяючы іх у цёмны калодзеж літаратурнага марнатраўства, але і чытачам, што, можа, і мелі б памкненне адрадзіць цікавасць да беларускай літаратуры хаця б на асабістым узроўні, ды проста не здолеюць гэта зрабіць, захлынаючыся ў трэшавым моры шырока разрэкламаванай бязглуздзіцы.

Выключная роля ў гэтым працэсе належыць прадстаўнікам медыяў. Часам нават пачынаеш шкадаваць, што якасць сучаснай цэнзуры надта ўжо спецыфічная, бо за крытыку ўлады можна было пацярпець ва ўсе часы, але распаўсюд разнастайнай дурасці ўсё ж такі не заахвочваўся да такой ступені, як гэта робіцца зараз. Так Званыя Журналісты асвятляюць у медыях Так Званыя Падзеі. Так Званыя "Чэсныя" могуць наваяць штосьці кшталту: "нам пашчасціла прадаць аж тры камбайны некуды ў азіяцкую глуш". Падзея! А Так Званыя "Нячэсныя" адкажуць наступным: "тэлевядучая Л. ляснулася аб дзверы ў хаце і зламала мізінец". Падзея хоць куды!

А вось і найбольш упадабаныя штампы, якія рэгулярна мусіруюцца як на ўзроўні абывацельскай свядомасці, так і з высокіх трыбун, а потым, адпаведна, разносяцца, ніба грыпозная бацыла, па медыйнай прасторы:

1) *"Мы маленькая краіна, таму залежныя ад вялікіх суседзяў"*. Па-першае, не такая ўжо і маленькая – дзевяць з паловай мільёнаў насельніцтва ды больш за 207 тысяч км² плошчы. Карлікавыя Андора і Монтэ-Карла чамусьці не пакутуюць ад сваіх памераў і іх не паглынулі больш вялікія суседзі. А Люксембург дык увогуле па ўзроўні жыцця ўваходзіць у шэраг еўрапейскіх лідараў.

2) *"У нас не стае рэсурсаў, мы бедныя"*. А якія рэсурсы ў Японіі або Эстоніі? У Ірландыі або Славеніі? Справа, відаць, не ў памеры рэсурсаў, а ў эфектыўнасці іх выкарыстання, іначай у Расіі была б заможнай абсалютная большасць грамадзян, а не купка алігархаў.

3) *"Самастойна нам не выжыць, трэба да кагосьці далучацца"*. Гэта ўвогуле нагадвае тыповую сітуацыю з кабетай, у якой муж – алкаголік і ёлупень, але ж сысці ад яго яна не можа, бо "адной цяжка". Ніхто і не кажа, што самастойнае плаванне будзе лёгкім. Але калі геапалітычны выбар звужаецца да ваганняў паміж Еўразвязам і Расіяй, дык можна сказаць, што ён фактычна адсутнічае. Бо і ў першым, і ў другім выпадку Беларусі адводзіцца місія лімітрофа, а не паўнавартаснага партнёра. Выйсце можа палягаць у стварэнні Балта-Чарнаморскай канфедэрацыі, хоць тут будзе складана забяспечыць дамінантныя функцыі за Беларуссю пры яе дзейсным становішчы.

4) *"Мы такія файныя, мірныя і працавітыя, але нам увесь час шкодзяць звонку"*. Пошук ворагаў – упадабаная стратэгія і правераны часам сродак згуртавання любога

народа. Можна нават сказаць, што наяўнасць “ворагаў” проста жыццёва неабходна, каб асноўнай частцы насельніцтва было куды “выпускаць пар”, асабліва ў перыяд абвастрэння ўнутрыдзяржаўных праблем. З улікам таго, што сябраваць і супрацоўнічаць адно з адным у беларусаў атрымліваецца не надта бліскуча, ім прыходзіцца аб’ядноўвацца, сябруючы супраць кагосьці. Прычым гэты “хтосьці” падаецца вельмі мутабельным і наўпрост залежным ад бягучай геапалітычнай сітуацыі.

5) *“Для ўсталявання парадку ў краіне нам не абысціся без “моцнай рукі”.* Падаецца, што калі сярод дзяцей папулярнай страшылкай з’яўляецца гісторыя пра “чорную руку”, дык сярод людзей сталога ўзросту яе месца займае трызненне пра “моцную руку”. Шкоднасць “моцнай рукі” ў айчынных рэаліях падкрэсліваецца тым, што якім бы цудоўным на першы погляд ні быў яе ўладар, але такая сітуацыя так ці іначай вядзе да абсалютызацыі і сакралізацыі ўлады адначасова з істотным паслабленнем сацыяльнай адказнасці як чынавенства, так і простых грамадзян.

Усё вышэйсказанае міжволі падводзіць нас да высновы аб тым, што маналітны марксісцкі тэзіс “быццё вызначае свядомасць” пачынае няўхільна хістацца ў бягучую інфармацыйную эпоху. Цяпер менавіта ключавыя па́тарны ў калектыўнай свядомасці народа вызначаюць кірунак яго быцця і далейшага развіцця. Менавіта на гэтым полі і разгортваецца сёння асноўная барацьба за ўладу і вызначэнне сфер уплыву. І менавіта з гэтай складанай субстанцыяй мусіць вучыцца эфектыўна працаваць кожны грамадскі лідар найноўшага часу. Асабліва ва ўмовах супярэчлівага існавання ў quasi-краіне.

**Summary**

**THE QUASI COUNTRY**

Iryna Khadarenka

The essay is dedicated to the problem of national identity and transformation of common mentality at the present time. It is recognized a large influence of values and cultural traditions to social life and economic conditions of any society. The special attention is paid to the key role of patterns in a collective consciousness which determine the direction of human behavior and further development. The author mentioned that namely this sphere becomes the place of power struggle today. Some typical mental and verbal stereotypes of modern Belarusians are also analyzed.

## ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ: «АФІЦЫЙНАЯ СУСТРЭЧА ЗЬ БЕЛАРУШЧЫНАЙ НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД ВЫГЛЯДАЕ ЎБОГА ... »

*Прадмова да серыі эсэ ў раздзеле «Беларуская культура» (з кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»)*

Афіцыйная сустрэча зь беларушчынай на першы погляд выглядае ўбога. Вам насустрач выходзіць вясковая дзяўчынка ў абавязковым фальклёрным строі, кланяецца, падаючы хлеб-соль на рушніку, а за кадрам рытуал суправаджаецца няхітрым пераборам цымбалаў з трэльлю жалейкі. Але нават тыповы шаблён нейкімі нязначнымі, інтуітыўнымі дотыкамі абуджае сэрца й чамусьці прымушае яго біцца часта й моцна. Нешта шчымлівае працінае наскрозь — і раптам, у празрыстым адкрыцьці, пачынае крынічыць глыбокая гармонія, уласьцівая геніяльна простай прыгажосьці.

Беларуская культура — найбольш яскравае выяўленьне нацыянальнага ідэалу, пакліканьня, мэнталітэту. Шэдэўры беларускае культуры — паэзія Багдановіча, хіты «Песьняроў», або раманы Караткевіча — набліжаюць нас да вяршыняў Божага замыслу для Беларусі. Бо культура факусуе ў сабе ўсё паняцьце нацыянальнай адметнасьці.

Ladies and gentlemen! Дамы и господа! Шаноўнае спадарства!.. Дазвольце прадставіць вам: Беларуская Культура!

Вы яшчэ не знаёмыя? Для мяне складае вялікае задавальненьне пералічыць толькі некаторыя тытулы гэтае Ўвасобленае Сьціпласьці:

— Першыя сярод усходніх славянаў помнікі пісьменьніцтва — пячатка Ізяслава і надпіс «Гороушна» на смаленскай карчазе.

— Другая, пасьля італійскай, паводле сьпеўнасьці й мяккасьці, мова ў Эўропе — найчысьцейшая са славянскіх.

— Кнігадрукаваньне ВКЛ XVI-XVII стст., калі Беларусь стала адным з сусьветных лідэраў друку.

— Адна зь лепшых у Эўропе XVIII — пачатку XIX стст. сыстэма адукацыі, заснаваная езуітамі, піярамі й базыльянамі, зь Віленскім Унівэрсытэтам ды Полацкай Акадэміяй — сыстэма, здольная навучыць правілам шляхетнасьці нават мядзьведзя з-пад Смаргоні.

— Вялікія філаматы й філарэты XIX ст.: Міцкевіч, Дамейка, Зан, Чачот.

— Анёлавы постаці віленскага барока, Мірскі замак і Нясвіскі палац, цэрквы-крэпасьці ў Сынкавічах, Мураванцы, Камаях, Супрасьлі — бастыёны нашай архітэктурнай эўрапейскасьці.

Найярчэйшыя імёны мадэрнізму XX ст. — мастакі Казімір Малевіч ды Васіль Каньдзінскі, філёзаф Мікалай Бярдзяеў (беларус па мацярынскай лініі), кампазітар Ігар Стравінскі.

— Дзяржаўны гімн Польшчы «Марш марш Дамброўскі» й «Яшчэ Польска не згінэла!» Агінскага, гімн Расеі — «Слаўся!» Глінкі, амэрыканскі «God Bless America!» Ірвінга Берліна (Ізі Бейліна з Магілева) — напісаныя ўраджэнцамі Беларусі.

— Беларуская паэтычнасьць, надзвычай масавая й рамантычная.

— Беларуская проза вайны XX стагодзьдзя, самая страшная й праўдзівая ў сьвеце: Быкаў, Адамовіч, Брыль, Пташнікаў, Алексіевіч.

— «Песьняры» — родапачынальнікі фольк-року ў СССР, савецкія «Бітлс», якім насьледавалі «Сябры», NRM, «Палац», «Тройца», «Крыві»...

— Агромністы дыяпазон народнага музычнага фальклёру.

Нарэшце, цэлая галяктыка супэрзорак — заснавальнікаў іншых вялікіх культураў: Адам Міцкевіч, Сімяон Полацкі, Хведар Дастаеўскі, Міхал Глінка, Генрык Сянкевіч, Людвік Замэнгаф, Давід Сарноў, Марк Шагал...

Зрэшты, каб пералічыць усе вартасьці Яе Высокасьці, нам ня хопіць і сёньняшняга вечара. Таму — да сутнасьці. У самой Беларусі культура заўжды адыгрывала ролю нацыянальнага сховішча. Калі акупанты зьнішчалі дзяржаву, эканоміку, эліту, забаранялі імя й руйнавалі храмы — заставаліся толькі родная мова з матчыным малаком, ціхія сьпевы ў падпольлі ды схаваныя за печчу кнігі. Беларусь прыніжалі, утоптвалі ў бруд, мяшалі зь зямлёй — але з кожнай вясной пяшчотная й настойлівая рунь прабівалася да сьвятла зноў.

Таму беларускі нацыяналізм часьцяком культурніцкі. Таму і культура ў нас такая «партызанская». Таму ў Беларусі дастаткова і слова шэптам, і некалькіх нотаў, і двух рыфмаваных радкоў, каб пазнаць свайго. «Культура» — наш пароль, пасьля якога ворагі хапаюцца за рэвальвэр.

Беларуская культура выключна мяккая. Інтэлігентная, талерантная, ласкавая. Функцыя беларускасьці — зьмякчаць, расплаўляць любоўю, палагоджваць згодаю перададзенае і польскай, і расейскай, і габрэйскай культурамі — робіць сымбалем клясычнае беларускае мовы й сэнсам беларускага ўплыву мяккі знак.





Беларуская культура — унутрана сьветлая. Поўная белі, чысьціні, сьвятасьці. Адсюль лепшая адукацыя на Ўсходзе Эўропы, сузор’е асьветнікаў Сярэднявечча, дар навучаньня й настаўніцтва.

Беларуская культура — фэнамэнальна міжмоўная. Беларусь — зона актыўнага сынтэзу царкоўнаславянскай і лаціны, расейскай і польскай, грэцкай і нямецкай, адраджэньня іўрыту й вынаходніцтва эспэранта — арэна паразуменьня моваў на скрыжаваньні цывілізацыяў, сумоўя ў сумежжы Эўропы й Азіі, культуровага дыялёгу Ўсходу й Захаду.

Беларуская культура — напоеная стоенай сілай. Няяркай, не пыхлівай, стрыманай унутранай моцай, здольнай выбухнуць на паўсьвета фэномэнамі авангарднага мастацтва й псыхалягічнае прозы. Беларуская культура выразна місіянерская. Культура эвангельскай місіі, якая аддае сябе бліжняму цалкам, і практычна ніколі не пакідае нічога сабе — місіі, што збудавала культуры Польшчы, Расеі й Ізраілю.

Беларуская культура — гэта культура сьпеву. Жыцьця ў трымценьні галасавых зьвязак: ад нараджэньня да сьмерці, ад крыку немаўляці, енку й радасьці, гаманы й надзіва мэлядычнага маўчаньня — і да пакаяннага плачу. Сьпеву з самага сэрца — самотнага й любоўнага. Беларуская культура — гэта культура Слова. Ня проста слова як сэмантычнай адзінкі, як зерня вершу, кнігі, мовы, — але Слова Божага, Слова, Якое сталася целам.

Беларуская культура — гэта культура Сэрца. Сэрца ўсяе Эўропы. Культываванае чуйнасьці, адчуваньня, прачуласьці. Ёмішча эўрапейскае душы — трапяткой, вытанчанай, узьнёслай. Храма пяшчоты. Апошняй крэпасьці рамантыкі. Хрысьціянскай сарцавіны эўраатлянтычнае цывілізацыі, што аддае перавагу ўнутранай веры перад прыгажосьцю. Месца болю й канцэнтрацыі сумленьня. Сэрца, пульс якога б’ецца ў любое зьяве беларушчыны. Настолькі духовая — адна з самых хрысьціянскіх нават сярод эўрапейскіх культураў! — культура Эўфрасіньні, Тураўскага, Скарыны, Багушэвіча, поўная болю, пакаяньня й самаахвярнасьці, крыніца ўзьнёсласьці для Захаду й апостальскае асьветы для Ўсходу, натхненьня для аднаўленьня Ізраілю... Культура Ісуса Хрыста!

Бо беларуская культура — гэта культура духовасьці. Менавіта духовасьці, а ня проста прыгажосьці ці рамантычнасьці. Вось чаму ў нас застаўся ўсяго 1% музэйных каштоўнасьцяў, архітэктурных помнікаў ды артэфактаў — і безьліч вечных словаў. Наша старажытнасьць — гэта культура Бібліі. Наша Сярэднявечча — культура хрысьціянства. Наша адраджэньне — культура духу.

Беларушчына на першы погляд здаецца слабенькай, гатовай абамлець ад першай жа сустрэчы з сур’ёзнымі цяжкасьцямі й грандыёзнымі цывілізацыямі. Слабой настолькі ж, наколькі слабы сам чалавек. Але — вялікі парадокс закону Божага! — у малітве,

пакаяньні, у любові й веры, у духу Хрыстовым беларушчына зьяўляецца адной з найвялікшых культураў сьвету.

Belle, бэль — цудоўна! Так на першай па мэлядычнасьці эўрапейскай мове выяўляецца сьветлавая сутнасьць bellарушчыны. Беларуская культура — бліскучы дыямэнт нацыянальнае ідэі, гранёны й адшліфаваны 1000-гадовай гісторыяй, 100% празрыстасьці й ідэальнай агранкі — валяецца сабе практычна пад нагамі пасярод Эўропы. Яго лічаць то забаўным шкельцам, то таннай падробкай. Нават самі беларусы не даюць веры ўласным вачам — то мімаходзь падфутболяць дыямэнт, то аддадуць гуляцца дзецям. Але ж гэта праўдзівы цуд сусьветнага парадку. Падыміце яго з бруду, абатрыце й дайце зірнуць экспэртам — у іх захіне дух.

Цуд, якому няма цаны!

Пранізьлівы сьпеў «Песьняроў», патрыярхаў этнікі на 1/6 сушы, што вывелі нацыянальны фальклёр на плянэтарную арбіту, упакорылі беларускаю любоўю і Захад, і Савецкі Саюз; тых самых «Песьняроў», канцэрты якіх наведвалі бітлы, і пра якіх у разгар халоднае вайны амэрыканская прэса крычала: «Яны заваявалі Амэрыку!» Празрысты беларускі голас, галоўны нацыянальны інструмант, то паанёльску высокі, як у Барткевіча, то па-тырольску галавакружна-пераліўісты, як у Забэйды-Суміцкага, то хрыпаты, як ва Ўладзімера Высоцкага ці рэзкі, як у Лявона Вольскага — але заўжды шчыры, моцны, насычаны пачуцьцём неверагоднае звонкасьці. Той самы голас, што робіць хітамі сьпевы Андрэя Макарэвіча, Юрыя Шаўчука, Алёны Сьвірыдавай, БІ-2 або «Красак».

Крышталёвая беларуская мова — самая чыстая з усіх славянскіх моваў, што навучыла акаць окаянную Москву, а затым і ўсю Расею, узбагаціла і паэзію Пушкіна, і прозу Буніна.

Бліскучы беларускі паэтычны дар высокага пачуцьця й натхнёнага патасу, што даў сьвету пачынальніка расейскага вершаскладаньня Сімяона Полацкага, патрыярхаў польскае літаратуры Каханоўскага й Міцкевіча, і эўрапейскага генія Багдановіча — і дагэтуль рыфмуе й рытмуе ўсё навокал ва ўсенародным захапленьні вершамі.

Вялікае кнігадрукаваньне XVI ст. (ВКЛ была ў тройцы сусьветных лідэраў!), сучасная менская паліграфія (найбуйнейшая база ва Ўсходняй Эўропе). Сьветланоснае барока Полацкай Сафіі, Глыбоцкага касьцёлу й Менскай Катэдры: ня дойлідства, а ўспышка граняў, запаленая зь сярэдзіны! Глыбокая беларуская вайсковая проза Быкава й публіцыстыка Алексіевіч, вялікая драма чалавечае псыхалёгіі ў раманах Дастаеўскага, фільме «Ідзі й глядзі» або аповесьці «Сотнікаў». Па-дзіцячаму захапляючыя хіты «Беларусьфільма»: «Прыгоды Бураціна», «Чырвоны Каптурок», «Корцік», анімацыя Ўладзіслава Старэвіча, пэрсанажы Дыснэю, нарысаваныя Аліёй Пашкевічам ці сцэны

беларускае батлейкі. «Тарас на Парнасе» ці самаіранічны «Сказ пра Лысую гару» — і нязбытна рамантычная, творчасьць Караткевіча...

Беларуская культура будавала ў сэрцы Эўропы Божы храм з раманскага й бізантыйскага стыляў. Упрыгожвала яго драўлянай скульптурай і вуніяцкім жывапісам, беларускай кафляй і аб'ёмнай «палымянай» разьбой, зіхоткім урэцкім шклом ды барокавай ляпнінаю. Запальвала сьвечы й адлівала званы. Стварала для яго гімны й прамаўляла казані. Друкавала для яго кнігі й прымала ў гэтым храме ўсе навакольныя народы. Беларуская культура стала фарпостам эўрапейскасьці для аграмадных прастораў Усходу. Беларуская культура зьмясьціла ў сабе самую сутнасьць Эўропы. Духовасьць. Талерантнасьць. Інтэлігентнасьць. Хрысьціянскую этыку.

Беларускасьць у вялікіх культурах нашых суседзяў можна беспамылкова вызначыць па гэтых родавых рысах. Тонкіх да вытанчанасьці, сьветлых да азарэньняў, высокіх — да Найвышняга! — рысах хрысьціянскае культуры. Беларуская культура прызначаная ў першую чаргу для культываваньня рэлігіі. Таму беларуская мова гучыць як малітва, беларуская проза — як пропаведзь, беларускі верш — як вершы Бібліі. У дойлідзтве ў нас, што б ні рабілі, заўжды атрымліваецца храм, у скульптуры — сьвятая сям'я ды апосталы, любая карціна ператвараецца ў абраз, а сьпевы — у гімны пакаяньня ды праслаўленьня.

Нажаль, сёньняшняя эўрапейская культура, пазбаўленая адпачатнага хрысьціянскага зьместу, зь яе гуманістычным узьвялічваньнем чалавечага й ігнараваньнем Божага, перажывае эпоху заканамернага тленьня. Эўропа губляе эўрапейскасьць — і менавіта таму саступае дынамічнай, ідэалістычнай і ўсё яшчэ хрысьціянскай Амэрыцы. Беларушчына, натхнёная, духовая, мае ўсе шанцы неўзабаве ўварвацца сьвежым ветрам ў затхлае закатнае валадарства Старога Сьвету — як альтэрнатыва эўрапейскаму дэкадансу, на чале цэлае хвалі з Новай, Усходняй Эўропы. Таму будучыня беларускае культуры — у кнігах: так, як Біблія Скарыны, першадрукі Ліцьвіна, Федаровіча й Мсьціслаўца, Статут і Мэтрыка для Сярэднявечча, у сучаснай цывілізацыі інфармацыйных сыстэмаў беларускае слова, быццам ключ, зноўку адамкне сэрца Эўропы.

Будучыня беларускае культуры — у голасе. Голасе сьпеву, малітвы, казані. Любоў і вера, распушчаная ў этэры радыёхваляў, нябачная, але ўладарная — вось, што адпавядае сутнасьці бязважкай беларускай культуры! Будучыня беларускае культуры — у мове. Мове, што адраджаецца зь віру Міжмоўя, унікальнай тысячагадовай паліфаніі на галоўным эўрапейскім скрыжаваньні.

Беларусь — самае месца для сынтэзу новай эўрапейскай літаратуры, музыкі, мастацтва. Паслухайце хаця б «Народны Альбом», «Я нарадзіўся тут», трыб'ют Depeche Mode, пачытайце тэксты «Arche», пераклады Сёмухі й Баршчэўскага, паглядзіце спэктаклі Мазынскага, жывапіс Шчамялёва й графіку Селяшчука, карціны Вашчанкі ды габэлены

Кішчанкі!..Культура сымбалю, лёгкага дотыку, позірку ў нябёсы, прыслухоўваньня да шэпту, водару духу, культура аднаўленае Эўропы III тысячагодзьдзя ўжо нараджаецца ў Беларусі — тут і цяпер. Бо беларуская культура ідэалістычная, самаахвярная й місіянерская. Гэта яе асноватворная асаблівасьць і неразбуральны падмурак. Бессэнсоўна камплексаваць з прычыны адсутнасьці ў Беларусі беларускіх матар'яльных каштоўнасьцяў — бо каштоўнасьць беларускае культуры ня ў гэтым. Гены беларушчыны закладзеныя ў словах, кнігах, нотах і скарбах культураў паловы Эўропы. Якраз такое эвангельскае багацьце і ёсьць прадметам нашага нацыянальнага гонару.

Як сапраўднае сэрца, беларуская культура напампоўвала і Польшчу, і Расею, і Ізраіль жыцьцядайнымі штуршкамі.

Польская літаратура: Міцкевіч! Нямцэвіч! Сянкевіч! Ажэшка!.. Музыка: Манюшка! Карловіч! Агінскі!.. Мастацтва: Рушчыц! Орда! Стрэмінскі!.. Кожнае імя — як удар пульсу, як удых-выдых, як порцыя волі, насычанай кісьлародам.

Для велізарнай Расеі Беларусь сьціскалася ў кулак і білася яшчэ часьцей, яшчэ мацней. Рытмова, акордамі музычнае клясыкі. Глінка! Стравінскі! Рымскі-Корсакаў! Шастаковіч! Высоцкі! Макарэвіч! Растраповіч!.. Важкімі ўдарамі, прапячатваючы вечнасьць прозы й паэзіі адціскамі друку. Федаровіч! Мсьціславец! Полацкі! Дастаеўскі! Пісараў! Грын! Бярдзяеў! Еўтушэнка! Твардоўскі!.. Мімікай, жэстамі, інтанацыяй, усёй сваёй драматычнай істотай, адчайна й самааддана. Азарэвічы! Качалаў! Неміровіч-Данчанка!

Напружанае аграмаднымі абшарамі Азіі й цяжарам эўрапейскае цывілізацыі, беларускае сэрца ўсё-ткі высільвалася з астатняе моцы для Ізраілю, расьсеянага па ўсім сьвеце: Шагал! Бакст! Суцін! Азгур! Замэнгаф! Азімаў! Бэн-Эліезэр! Мэндэль-Сфорым! Бейлін! Дуглас! Сарноў!..

Беларуская культура — натура летуценная, рамантычная, задуменная. З глыбокім позіркам, што шукае вышыняў. Зь мілай усьмешкай, цярпліва хаваючай боль. Менавіта такім чынам, на прасьвет у неба, чытаюцца галоўныя беларускія тэксты. Менавіта гэтак, з малітоўна складзенымі рукамі, трэба сьпяваць шчымлівыя й балючыя беларускія песьні.

Беларуская культурная традыцыя, заснаваная на асваеньні колішніх паганскіх абрадаў хрысьціянскім сэнсам, спаўняе сваю эвангельскую місію дагэтуль. У сілу дзесяцівяковага досьведу беларушчына гатовая й сёньня апаноўваць ды мяняць знутры любую культуровую зьяву сучаснага сьвету.

Культура ёсьць інстынктыўным або ўсьвядомленым імкненьнем чалавека ўвасобіць нацыянальную ідэю, закладзеную Госпадам, па-Божаму творча. Беларуская культура — гэта тварэньне Духа праз рухі мільёнаў душаў, парыў і прарыў у вышыні, да ідэалу

Хрыста. Сьціплая, але высокая, ціхая, але пранізьлівая, мяккая, але моцная, някідкая, але надзіва прасьветленая й хвалюючая!.. Толькі прыглядзіцеся — вы заўважыце яе ў кожным беларусе. Гэтая хада, гэтыя рухі — пяшчотная ласка і чуйная плястыка, даведзеныя да дасканаласьці ў балеце Елізар'ева. Ціхая гульня апушчаных вачэй, артыстычная дыпляматыя, шчырае жаданьне «каб усё было добра», удаваная лагоднасьць і шчырая спагада, усе гэтыя пераўвасабленьні дзеля суразмоўцы ды гледача — у ідэальным выкананьні актораў Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатру імя Янкі Купалы.

Паталягічна вінаватая ўсьмешка, ветлівасьць, стрыманасьць, агіда да гвалту й слабасьць да вершаў... Беларуская інтэлігентнасьць, такая заўважная ў любым саюзе творцаў, любой настаўніцкай ды ўвогуле любой прыстойнай кампаніі ў радыюсе 300 км ад Менску.

Інтанацыі голасу, быццам перабор струнных, сьпеўнасьць самае празаічнае гутаркі, і высокія-высокія песьняроўскія ноткі.

Сылюэты беларусачак — як сьветлае й лёгкае віленскае барока ці готыка касьцёлу Сьвятое Ганны. Постаці мужыкоў-беларусаў — прысадзістыя й моцныя, як цэрквы-крэпасьці — Сынкавічы, Мураванка, Камаі, Супрасьль.

Усе цені, тоны, паўтоны й нюансы глыбокага беларускага мастацтва ў абліччах!..

Калі ўваходзіш у беларускі касьцёл, стромы харал чыстага й урачыстага, і чуеш імшу са званочкамі й дружным адказам вернікаў, з розгаласам рэха; калі слухаеш у царкве літургію, настолькі сьпеўную й мэлядычную па-беларуску, зь мігценьнем сьвечак у такт нотам і жагнаньнем адпаведна формулам Слова; калі пяеш «Гасподзь — Пастыр мой», магутны псальм на пратэстанцкім праслаўленьні, цудоўную паліфанію малітоўных галасоў — адчуваеш, як уся твая істота суладна гучыць, дрыжыць, дыхае... Жыве!..

І пачынаеш разумець, адкуль у Беларусі такая культура.

Адухоўленая. Натхнёная. Поўная гармоніі. Сымбалічная. Багавейная да Слова. Этычная. Паэтычная. Патэтычная.

Адсюль песьняроўскія песьні.

Адсюль Багдановіч, Купала, Быкаў.

Адсюль Нясьвіж, «Чорны квадрат» і «Наша Ніва».

Вось адсюль. З храму. З душы, поўнай Духа. Звыш.

Бо беларускасьць — ад Бога.

**Summary**

**AT FIRST GLANCE THE OFFICIAL MEETING WITH BELARUS LOOKS POORLY**

Pavel Sevjarynets

This article is an introduction to the chapter titled “Belarusian culture” from the book “I Love Belarus” by Pavel Sevjarynets. Whether you would read it in Belarusian you would find that the Belarusian culture is so nice and unique as Belarusian language is. This introduction as the entire book was written with so much love about the existence, culture, and traditions of Belarusian people.

## ПЁТРА МУРЗЁНАК: УСХОДНЕСЛАВЯНСКАЯ БЕЛАРУСКА-УКРАІНСКАЯ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯ. ГІПОТЭЗА І ФАКТЫ

*(дапоўнены варыянт артыкула "Ці быў Рурык у Полацаку?", зьмешчаны ў другім нумары часопіса "САКАВІК")*

Абгрунтоўваецца існаваньне асобнай усходнеславянскай еўрапейскай цывілізацыі на сучасных тэрыторыях Беларусі і Украіны. Крытычнымі фактарамі ў размежаваньні усходнеславянскай (беларуска-украінскай) цывілізацыі і еўразійскай цывілізацыі былі мангола-татарскае нашэсьце і ўзнікненьне Вялікага Княства Літоўскага, княства, якое выратавала ўсходніх славян ад еўраазіяцыі. Відавочна, што залічэньне Беларусі і Украіны ў наш час да артадаксальнай, усходняй ці еўразійскай/рускай цывілізацыі, нягледзячы на шэраг характэрных для гэтых краін прызнакаў заходняй цывілізацыі, патрабуе перагляду, бо зроблена на падставе міфаў і высноў, зробленых у выніку тлумачэньня гістарычных фактаў з погляду геапалітыкі такіх як трыадзінства трох славянскіх народаў («великороссов», «малоросов» і «белорусов»), сьцьвярджэньне славянскага характару Расійскай імперыі, гістарычная пераемнасьць ад Кіеўскай Русі да Расіі, роля Масковіі ў аб'яднаньні ўсходніх славян.

### 1. Фактары, спрыяўшыя ўтварэньню усходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый

### 1.1. Міграцыя і размежаваньне ўсходнеславянскіх плямёнаў

У наш час лічуць, што славянскі этнагенез фарміраваўся на даволі вялікай тэрыторыі, якая распасьціралася ад Одэра на захадзе, да Дуная на поўдні, і аж да Дняпра на ўсходзе (Curta, 2001; Geary, 2003). Ёсць некалькі тэорый аб паходжаньні ўсходніх славян, пачынаючы ад таго, што яны пайшлі ад скіфаў ці готаў, што яны стала пражывалі на амаль тых жа тэрыторыях, якія займаюць і зараз, і, нарэшце, што яны паступова мігравалі з раёнаў Сярэдняй Еўропы на поўдзень, усход, і часткова на поўнач. Мяркуюць, што ўсходнія славяне мігравалі ў 5-7 ст. н.э. з раёнаў Палаб'я (цяпер Памеранія ў Германіі) і Вістулы ў месцы сучаснага пражываньня. Аднак некаторыя даследчыкі лічуць малаверагодным, што за такі кароткі час славянскія плямёны змаглі засяліць/заняць тэрыторыю Ўсходняй і Цэнтральна-Ўсходняй Еўропы, тым больш, што славяне былі земляробамі і ў сілу гэтага павінны былі весьці аседлы стыль жыцьця (Halsall, 2006). Магчыма, што ў 5-7 ст. гэта была ўжо другая хваля міграцыі славян, якія далучаліся да аседлых славян, прыйшоўшых сюды раней.

Паводле Шахматова (1919) славянскія плямёны з Палаб'я і Вістулы рухаліся з захаду на ўсход двумя групамі. Заходняя група, паступова рухаючыся на поўнач, паўночны-ўсход і ўсход, займала тэрыторыю сучаснай Беларусі, Пскоўскіх, Ноўгарадскіх і Смаленскіх зямель. Другая ж, ідучы на паўднёвы ўсход і поўдзень, паступова засяляла тэрыторыі сучаснай Валыні, Карпат і Украіны. У канцы 9 ст. славяне паступова занялі тэрыторыю, якую пазьней гісторыкі назвалі Кіеўскай Русьсю. Аднак у перыяд расьсяленьня і падчас існаваньня Кіеўскай Русі падзяленьня ўсходніх славян на групы па моўнаму прызнаку яшчэ не было. Усходніх славян «дакіеўскага і кіеўскага перыяду» (русы, русіны, рутены) можна адносіць да адной этнанацыянальнасьці (Plokhy, 2006), але відаць ужо ў гэты перыяд пачыналася іх падзяленьне і можна думаць, што гэты працэс стаў больш выразным з распадам Кіеўскай Русі.

На падставе археалагічных і іншых даследаваньняў усходніх славян падзяляюць на плямёны. Мяркуюць, што славянскія плямёны, якія йшлі на паўночны захад Усходняй Еўропы (дрэговічы, драўляне, дулебы, крывічы, палачане) сутыкаліся і ассіміляваліся з балцкімі плямёнамі (відаць гэта тыя славяне, якія далі пачатак сучасным беларусам). Некаторымі аўтарамі абгрунтоўваецца балцкая тэорыя паходжаньня беларусаў (Дзермант, Санько, 2005; Дзеружинский, 2009; Голденков, 2009). Славяне, што дасягнулі Кіева і памежных тэрыторый (драўляне, паляне) ассіміляваліся з сарматамі і далі пачатак сучасным украінцам. Славянскія плямёны, што пазьней рухаліся на поўнач, паўночны ўсход і ўсход (ільменскія і наўгародскія славяне, крывічы, радзімічы, северане) дайшлі да тэрыторый, якія займалі фіна-угорскія плямёны; гэтыя славянскія плямёны далі пачатак яшчэ адной галіне ўсходніх славян, якіх пазьней назвалі вялікаросамі. Відавочна, што рух славянскіх плямён на поўнач і ўсход стрымліваўся як прыроднымі фактарамі, не зусім прыдатнымі для земляробства (лясы, стэпы, халодны клімат), так і адсутнасьцю колькаснай перавагі славян дастатковай на той час для таго, каб не зьнікнуць за фіна-угорскімі плямёнамі, якія займалі гэтыя тэрыторыі (мардва, мары, весь, мяшчэра, муромы). У адным з урыўкаў ПМЛ пазначана, што на азёрах (Растоўскае, Белоозеро, Клешчына) і каля ракі Ака жывуць плямёны, якія гавораць на сваёй (не-славянскай) мове і якія плацяць дань русі (чудзь, меря, весь, мурома, чарамісы, мардва, перм, пячера, ям, літва, зімігола, корсь, нарова, ліві); гэта значыць, што славяне з Наўгародчыны і Дняпра, прыходзячы на землі Паўночна-Усходняга Краю, непазбежна ассіміляваліся з неславянскімі плямёнамі. Ассіміляцыя «славян-вялікаросаў» з гэтымі плямёнамі (ассіміляцыя першай хвалі) была адной з прычын размежаваньня ўсходніх славян у далейшым. Такім чынам, раздзяленьне ўсходніх славян на «беларусаў, маларосаў і вялікаросаў» адбылося не ў канцы 18-га і пачатку 19-га ст., а пачалося значна раней, яшчэ да распаду Кіеўскай Русі.

### 1.2. Міжусобныя войны як прычына раздзяленьня ўсходніх славян

Феадальная раздробленасьць была адной з прычын не толькі распаду Кіеўскай Русі, але і прадумовай далейшага этнанацыянальнага падзелу ўсходніх славян. Кіеўская Русь не была адзінай. У ёй існавалі тры цэнтры - Кіеў, Полацак і Ноўгарад - паміж якімі пастаянна йшлі войны і барацьба за першынство. Войны не спрыялі яднанньню славян, а наадварот, памножаныя на племянныя асаблівасьці, вялі да лакальнай канцэнтрацыі насельніцтва вакол мясцовых лідэраў і традыцый, да кантролю над займаемымі тэрыторыямі, і фарміраваньня новых этнасаў з развіцьцём моўнай дыфферэнцыяцыі.

Гісторыя Кіеўскай Русі, пацьверджаная дакументамі, пачынаецца з князя Ігара (княжыў з 912 па 945 год). Праўда, доказаў таго, што ён быў сынам Рурыка, апроч прыведзенага апісаньня ў ПМЛ, няма. Відавочна, што князь Ігар быў, як і тое, што ў яго быў бацька, які ўвайшоў у гісторыю пад імем Рурыка, і ад якога пайшло мноства Рурыкавічаў, уключна з лініяй маскоўскіх князёў і цароў. Але ў прынцыпе гэта нічога не мяняе – ці быў Ігар сынам Рурыка ці сынам другога чалавека. Галоўнае, што ён быў кіеўскім князем, які пашыраў свой уплыў на землі, населеныя славянамі. Ці была Кіеўская Русь моцнай у час праўленьня князя Ігара? Калі лічыць, што князь Ігар зьдзейсьніў два паходы на Канстанцінопаль, то магчыма, што Кіеўскае княства пачынала ўсталёўвацца, хаця яно яшчэ было ў значнай залежнасьці ад хазар. У сярэдзіне 9 ст. хазары кантралявалі тэрыторыю на поўдзень ад умоўнай лініі Смаленск-Мурам, і валодалі Курскам, Чарнігавам і Кіевам. Усе гэтыя гарады плацілі хазарам даніну. Нават пасьля таго як у 967 г. кіеўскі князь Сьвятаслаў I (сын Ігара) разьбіў хазараў і захапіў іх сталіцу Аціл гэта не выратавала Кіеў ад далейшага змаганьня з печанегамі, якія прыйшлі на зьмену хазарам. Але менавіта з гэтага моманту можна казаць пра пачатак росквіту Кіеўскай Русі, які назіраўся ў часы кіраваньня князя Сьвятаслава (945–972) і княгіні Ольгі (945–969, як апякун), князёў-братоў Яраполка (972-980) і Ўладзіміра (980–1015), і Яраслава Мудрага (1019-1054). Лічуць, што ў часы кіравання Яраслава Мудрага насельніцтва Кіеўскай Русі налічвала каля 7-8 мільёнаў жыхароў. Яго ўлада была асабліва моцнай у бліжэйшых да Кіева княствах, такіх як Чарнігаўскае, Пераяслаўскае, Галіцкае. У той жа час нельга пагадзіцца з тым, што Кіеўская Русь была цэльнай феадальнай дзяржавай.

Сярод трох цэнтраў, Кіеў – Полацак - Ноўгарад, Полацак займаў сваё незалежнае і спецыфічнае становішча. Яраслаў Мудры быў князём Кіеўскім, Ноўгарадскім і Растоўскім, але не быў князём Полацкім. Дык ці быў Полацак пад Кіевам? Першым вядомым Полацкім князем быў Рагвалод (920-978). Паводле адной з гіпотэз – Рагвалод быў варагам (Арлоў, 2005), паводле другой - сынам полацкай княгіні Прадславы, які пасля сьмерці маці прыняў княжаньне, вярнуўшыся ў вотчыну "из заморья" (Ермаловіч, 1990). Князь Рагвалод і яго сям'я была зьнішчана кіеўскім князем Уладзімірам Сьвятаслававічам. Уладзімір быў

вельмі жорсткім і ў барацьбе за ўладу забіў свайго роднага брата Яраполка, у той час вялікага князя кіеўскага. Дачка полацкага князя, князёўна Рагнеда, стала палоньніцай і жонкай кіеўскага князя ў 13 год і нарадзіла яму князёў Ізяслава Уладзіміравіча (полацкі князь з 988 па 1001), Яраслава Мудрага (вялікі князь кіеўскі з 1019 па 1054), Усевалада (князь Уладзіміра-Валынскі), Мсціслава (князь чарнігаўскі і цьмутараканскі), а таксама князёўнаў Прадславу (узяла шлюб з чэскім князям Баляславам III) і Прамíславу (выйшла замуж за вугорскага прынца Ласла Сара Лысага). Нават калі мець на ўвазе толькі Яраслава Мудрага, які княжыў у Кіеве 35 гадоў, то можна казаць пра значную ролю, якую адыграла княгіня Рагнеда ў станаўленьні Кіеўскай Русі. Калі Ўладзіміра лічаць хросным бацькам Кіеўскай Русі, то княгіня Рагнеда ў такім разе з'яўляецца маці Кіеўскай Русі. Іх сын, Ізяслаў, стаўшы полацкім князем (986-1001), працягваў праводзіць незалежную ад Кіева палітыку пачатую ягоным дзедам, князем Рагвалодам. Варта пачытаць манаграфіі М. Ермаловіча, расійскіх гісторыкаў, каб пераканацца ў тым, што не было дзесяцігоддзя, каб Полацак не ваяваў з Ноўгарадам ці Кіевам. Найбольшага росквіту Полацкае княства мела пры княжаньні Ўсяслава Чарадзея (княжыў з 1044 да 1101 года). Кароткі перыяд (1068-1069) Усяслаў Чарадзей, князь Полацкі, нават княжыў у Кіеве. Многія дасьледчыкі сёньня лічуць, што Полацкае княства 9-13 ст. з’яўляецца першай формай дзяржаўнасьці на беларускай зямлі. Такім чынам, выключаючы кароткі перыяд барбарскага нападу князя Ўладзіміра на Полацак, можна лічыць, што Кіеў не кантраляваў дзейнасьць Полацкага княства. Інакш кажучы, над Полацакам праплыў толькі цень Рурыка. Гэтая незалежнасьць Полацака ад Кіева ёсьць аб'ектыўным пазітыўным фактарам ці, калі хочаце, добрай падставай для беларусаў не ўдзельнічаць у змаганьні за наследаваньне ў поўнай меры гістарычнай спадчыны Кіеўскай Русі, якое зараз вядзецца паміж Украінай і Расіяй.

У рамках гістарычнай Кіеўскай Русі ішлі пастаянныя войны і паміж іншымі княствамі. У выніку гэта феадальная структура рассыпалася адразу пасьля сьмерці Яраслава Мудрага. Зямля была падзелена на малыя ўдзелы паміж ягонымі сынамі, якія пачалі варагаваць паміж сабой, што і стала пачаткам распада Кіеўскай Русі. Барацьба непасрэдна за кіеўскі пасад таксама спрыяла гэтаму ў значнай меры (пераемнасьць кіеўскай княскай пасады з’яўляецца адным з прынцыповых момантаў у зьвязку гістарычных спрэчак Кіеўская Русь – Расія). Трэба ведаць, што на тыя часы ўлада ў Кіеве перадавалася на праве старшынства ў родзе, г.зн. ад старэйшага да малодшага ва ўсім родзе, а не ад бацькі да сына. У 1093 годзе ўладу прыняў старэйшы па ўзросту князь Святаполк Ізяславіч Тураўскі, дваюрадны брат Уладзіміра Манамаха (1053-1125). Пасьля смерці Святаполка ў 1113 годзе на кіеўскі пасад па праву старшынства прэтэндавалі князі Давід (1050-1123) і Алег (1053-1115) Святаславічы, якія былі дваюраднымі братамі Ўладзіміра Манамаха па другой лініі (Давід быў на тры гады старэйшы за Ўладзіміра, а Алег быў ягоным аднагодкам). Аднак пасад заняў Уладзімір Манамах. Паводле расійскіх гісторыкаў, у прыватнасьці С. Салаўёва – па запрашэньню старэйшын і са згоды кіеўскага народа. Гэта значыць, менавіта пачынаючы

ад Уладзіміра Манамаха была парушана ратацыйная сістэма зьмены ўлады. Парушэньне правіл наследаваньня прывяло да таго, што ў гэтыя спрэчкі і ў вайну паміж сабою ўцягнуліся Алегавічы з Чарнігава, Манамахавічы з Пераяслаўля, Ізяславічы з Турава/Валыні і Полацкія князі.

За 45 год, пачынаючы ад 1125 года да 1169 года, князі з розных родаў зьмяняліся на кіеўскім пасадзе 21 раз, некаторыя з іх, пасьля зацятай барацьбы, пабывалі там па тры разы (напрыклад, Юры Далгарукі - сын Уладзіміра Манамаха, Ізяслаў Давыдавіч, Расціслаў Мсціславіч, Вячаслаў Уладзіміравіч). Нават Алегавічы сумелі даказаць сваё права на кіеўскі пасад (Ўсевалад і Ігар Алегавічы, 1139-1146); хаця як напісана ў расійскіх крыніцах яны (Алегавічы) «прымусілі» Манамахавічаў прызнаць сваё права. Дастаткова прачытаць 1-ю і 4-ю главы II-га тома С. Салаўёва "История России с древнейших времен" ("О княжеских отношениях вообще" і "События при правнуках Ярослава»), как зразумець прычыны гэтых сварак.

Нашчадкі Ўладзіміра Манамаха прыклалі рукі і да літаральнага зьнішчэньня самага горада Кіева: у 1169 годзе Кіеў быў зруйнаваны войскам растова-суздальскага князя Андрэя Багалюбскага (унук Уладзіміра Манамаха і сын Юрыя Далгарукага-заснавальніка Масквы), а ў 1203 годзе Кіеў быў разрабаваны Рурыкам Расьціславічам (праўнукам Манамаха па другой лініі) разам з Алегавічамі ды полаўцамі. Трэба таксама ўзгадаць, што Рурык Расьціславіч займаў з перапынкамі вялікі кіеўскі пасад аж 6 разоў. І нарэшце ў канцы 1240 года Кіеў захапілі ды зруйнавалі мангольскія войскі Батыя.

Такім чынам міжусобіцы паміж княствамі Кіеўскай Русі былі адным з галоўных фактараў у яе распадзе. Распад Кіеўскай Русі прывёў да ўмацаваньня існаваўшых і стварэньня ў гэтых умовах новых цэнтраў усходніх славян са сваімі спецыфічнымі рысамі. Абасобленнасьць і самастойнасьць Полацкага княства (прататып будучай беларускай дзяржавы) яшчэ больш узмацнілася, як узмацнілася і Валынска-Галіцкае княства (прататып будучай украінскай дзяржавы). У гэты ж перыяд на паўночным усходзе, на землях фіна-угорскіх плямён, утварылася Ноўгарадская рэспубліка (1136), дзе існавала абмежаваная княская ўлада, і Ўладзіміра-Суздальскае княства (1157), першае княства Паўночна-Усходняга Краю, якое стала ядром будучай Масковіі. Але гэта адбылося амаль праз 200 год пасьля ўсталяваньня Полацкага і Кіеўскага княстваў.

### 1.3. Мангола-татарскае нашэсьце і ўтварэньне Вялікага Княства Літоўскага – галоўныя фактары размежаваньня ўсходніх славян

Міграцыя ўсходніх славян на поўдзень і паўднёвы ўсход ад Кіева была немагчымай, і не таму, што ў тым напрамку былі не вельмі прыдатныя для земляробства бяскрайнія стэпы,

а таму, што гэтыя стэпы былі даўнім месцам пражываньня і дзейнасьці качэўнікаў. Чарнаморска-Касьпійскі стэп цягнецца ад усходніх межаў Румыніі і далей па паўднёвых частках сучаснай Малдовы, Украіны, Расіі, да паўночна-заходняга Казахстана і Урала, дзе ён далучаецца да Казахскага стэпу і такім чынам з'яўляецца часткай вялізнага Еўразійскага стэпу. На працягу тысячагоддзяў ваяўнічыя плямёны качэўнікаў рухаліся па гэтаму стэпу з усходу на захад і нават дасягалі і захоплівалі значныя рэгіёны Еўропы. З усходу на захад зьмяняючы эпохі і адзін аднаго ішлі скіфы (700-200 да н.э.), сарматы (200 да н. э. - 200 н.э.), гуны (370 – 453 н.э.), аланы (500–1100 н.э.), авары (600-800 н.э.), хазары (600–1000 н.э.), а пазьней печанегі (800-1100 н.э.), кіпчакі і куманы (11-13 ст.), манголы Чынгіз-хана (13-15 ст.) (Riazanovsky, 1993). Як лічылі некаторыя расійскія гісторыкі (Л. Гумілёў, класічныя еўразісты), і качэўнікі, і стэпы, якія яны займалі, адыгралі велізарную ролю ў далейшым станаўленьні і развіцьці Расіі.

Нашэсьце мангола-татараў было адным з ключавых фактараў, раздзяліўшым усходніх славян на дзьве цывілізацыі - усходнеславянскую/беларуска-украінскую і еўразійскую/расійскую. І гэта мяжа паміж цывілізацыямі лёгка праглядаецца, калі прасачыць якія тэрыторыі, захопленыя мангольскай імперыяй, апынуліся ў вассальнай залежнасьці, і якія засталіся вольнымі ад заваёўнікаў з Еўразійскага стэпу. Вызначальнай асаблівасьцю мангольскага паходу было тое, што манголы мінулі княствы, размешчаныя на тэрыторыі сучаснай Беларусі і часткова Украіны. У выніку, гэта вылілася ў тое, што ўсходнія славяне, што жылі на тэрыторыі Беларусі і Украіны, у адрозненьне ад жыхароў Паўночна-Усходняга Краю, мінулі той жыцьцёвы парадак, які ўсталёўваўся манголамі, і больш таго - засталіся ў баку ад зьмяшаньня з цюркскімі народамі.

К сярэдзіне 13 ст. усходнія славяне, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, апынуліся ў сьферы ўплыву Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), а княствы на паўночным усходзе і на поўдні трапілі пад уплыў заваёўнікаў-качэўнікай Залатой Арды. Сваім прыходам манголы спрыялі аддзяленьню славян-«вялікаросаў», якія падпалі пад іх уладу на два с паловай ст. (аж да 1480 г.), ад другіх усходніх славян, славян-«беларусаў», вольных ад манголаў, і славян - «украінцаў», частка якіх трапіла на 100 год пад уплыў манголаў-качэўнікаў, але пасьля таго, як у 1362 годзе войскі ВКЛ пад кіраўніцтвам князя Альгерда разьбілі мангола-татараў каля Сініх Водаў украінскія землі былі вызвалены з няволі. Такім чынам, паўднёвыя і паўднёва-заходнія часткі былой Кіеўскай Русі, як і тэрыторыя сучаснай Беларусі паступова былі ўключаны ў склад ВКЛ, якое адыграла адметную ролю ў аб'яднаньні ўсходнеславянскіх зямель. У ВКЛ, у канцы 14 ст., толькі 1 з 9 жыхароў быў жмудзінскага паходжаньня (O'Connor, 2003), г. зн. амаль усе астатнія былі рутенамі. Старабеларуская мова была афіцыйнай мовай ВКЛ. Пачынаючы з 14-га ст. поўная назва ВКЛ гучала як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. На той час слова «рускае» азначала рутенскае, якое па гістарычнай недарэчнасьці перайшло ў карыстаньне толькі да

